# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 38 (1793) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 23 ВЕРАСНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.



АСЕННІ ПЕЙЗАЖ. Фота Янкі Целушэцкага

## Першыя дні незалежнасці

**Размова з УЛАДЗІМІРАМ НОВІКАМ — народным дэпутатам Беларускай ССР, сакратаром Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета БССР па пытаннях развіцця прамысловасці, транспарту, сувязі і інфарматыкі, членам рабочай групы Камісіі ВС БССР па падрыхтоўцы новай Канстытуцыі.**

*— На першых пасяджэннях Вярхоўнага Савета БССР гэтага (дванаццатага) склікання пытанне дзяржаўнасці Беларусі было адхілена. Відаць, ход падзей прымусіў беларускі парламент змяніць свае адносіны да гэтай справы. Скажыце, калі ласка, як дайшло да прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР?*

— Пры адкрыцці сесіі Вярхоўнага Савета БССР у маі г.г. узнімалася пытанне аб суверэнітэце рэспублікі. Аднак камуністычная большасць дэпутатаў адхіліла ўключэнне гэтага пытання ў павестку дня. Тым часам падзеі ў Вярхоўных Саветах Расійскай СФСР і Украінскай ССР прымусілі беларускую партакратыю задумацца над суверэнітэтам рэспублікі, бо немагчыма было заставацца несуверэннай дзяржавай у акружэнні суверэнных рэспублік. Чатырнаццатага або шаснаццатага чэрвеня Міхаіл Гарбачоў сабраў старшынь рэспубліканскіх вярхоўных саветаў і даў дабро на працэс самавызначэння. Старшыня нашага Вярхоўнага Савета Мікалай Дземянцей, вярнуўшыся ў Мінск, распаўсюдзіў сярод дэпутатаў запіску аб суверэнітэце БССР. Пасля гэтага пытанне незалежнасці Беларусі было ўключана ў павестку дня і створана камісія па распрацоўцы дакумента аб дзяржаўным суверэнітэце. .

Сярод дэпутатаў былі распаўсюджаны чатыры праекты дакумента: камісіі Вярхоўнага Савета, дэпутацкай групы БНФ „Адраджэнне“, запіска, падрыхтаваная Мікалаем Дземянцеем, і праект Прэзідыума Вярхоўнага Савета.

*— Які быў удзел радыкальных груп дэпутатаў у распрацоўцы канчатковай формы Дэкларацыі?*

— У працах над праектам Дэкларацыі прымалі ўдзел дэпутаты з фракцыі БНФ (26 чалавек) і дэпутацкі дэмакратычны клуб (каля 100 чалавек). 30 чэрвеня адбылася канферэнцыя БНФ „Адраджэнне“, на якой таксама абмяркоўвалася пытанне аб дзяржаўным суверэнітэце. Некаторыя прапановы дэпутацкай групы БНФ выкарыстоўваліся літаральна або для пры-

(Працяг на стар. 6)




### Частка I

Быў канец чэрвеня мінулага года. Над Падляшшам ужо доўгія дні высока павісала распаленае сонца. Спёка была такая бязлітасная, што на нашых бедных пясочках дзе-нідзе былінка ўсякая павысыхала. Рэчкі, яшчэ нядаўна ў вясеннія дні шумлівыя і задзірыстыя, цяпер сталі ціхенькімі ды кволымі...

Апоўдні, стаміўшыся ад спёкі, хаваўся жаваранак недзе на ўзлеску. Жывёла шукала цяньку ў вільготным алешніку. Дрэвы і травы млелі, чалавек слабеў. Усё жывое задыхалася...

Але, нібыта наперакор гэтаму, родная зямелька здавалася яшчэ прыгажэйшай. Яна запрашала да сябе, зноў клікала нас на свае шляхі.

І так вось, сярод тае летняе спёкі сустрэліся разам вучні сярэдніх школ, студэнты і „мастадонты“ на чарговым рэйдзе-вандроўцы „Лета '89“. На гэты раз вандраўнікі падаліся ў самы паўднёва-ўсходні куточак Беласточчыны — наведаць ваколіцы старадаўніх Кляшчэляў ды прызабытых Такароў. Пра тыя ды іншыя мясціны, якія наведалі мы на шляху, павядзецца цяпер аповяд...

### КЛЯШЧЭЛІ

Даволі спакойнае цяпер мястэчка, у сваёй мінуўшчыне хавае шмат цікавага. Гісторыя Кляшчэляў непарыўна звязана са старажытным трактам, які вёў з Бельска ў Бярэсце праз Высокае. Кляшчэлі распалажаны недзе ў палавіне дарогі паміж Бельскам і Высокім, і тут павінны былі існаваць прыдарожныя корчмы, дзе і адпачыць было можна і памяняць коней.

Буйнае развіццё Кляшчэляў наступіла ў XV ст. Ужо перад 1522 годам яны атрымалі ад караля Зыгмунта I прывілей на гарадскія правы. У XVI ст. горад на Нурцы стаецца даволі важным адміністрацыйна-эканамічным і рэлігійна-культурным цэнтрам Бельскай зямлі. Сведчыць аб гэтым хаця б факт, што ў 1561 годзе існавалі тут ужо дзве цэркавы: св. Юрыя і св. Міколы, дзе знаходзілася ікона св. Міколы Цудатворца. Пры гэтай жа царкве ў канцы XVI ст. узнікла брацтва, якое абараняла праваслаўе пад напорам Брэсцкай уніі. У 1633 годзе кароль Уладзіслаў IV выдае „грамату“ аб вяртанні м.інш. кляшчэлеўскім праваслаўным цакрвы св. Міколы, а тры гады пазней каралеўскія камісары рашаюць аб звароце праваслаўным таксама храма св. Юрыя. Аднак гэта поўнасцю не здзейснілася...

Міналі гады. Вяртанню кляшчэлеўскіх уніятаў да праваслаўя выдатна спрычыніўся а. Антон Сасноўскі (1774—1852), які разгарнуў тут шырокую асветніцкую дзейнасць. У Кляшчэлях, на старых народных могілках, знаходзіцца яго магіла.

Праязджаючы сягоння праз Кляшчэлі, міжволі кідаецца ў вочы прыгожая драўляная званіца царквы св. Міколы з XVIII ст. Самой царквы, на жаль, ужо няма, яна згарэла. Таксама не існуюць цэрквы св. Юрыя і св. Ануфрыя. А цяперашняя прыхадская — мураваная Успенская царква, даволі нядаўняя, узведзена ў 1871 годзе. Стаіць у Кляшчэлях і рымска-каталіц-

(Працяг на стар. 7)

## НА мяжы

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Сустракаючыся з беларускай грамадскасцю, прыглядаўся я не толькі да слухачоў, але і да сяброў-пісьменнікаў, з якімі даводзілася мне разам выступаць. Зразумела, што былі гэта вельмі розныя людзі. Творчыя, механічныя, абыякавыя, рамантычныя, грашаробы і місіянеры. Аднак у большасці выпадкаў пісьменнікі выступалі вельмі шаблонна. Для прыкладу, выступаючы на дзесяці аб'ектах, слова ў слова гаварылі тое самае і чыталі тыя самыя вершы. Сустрэўся я з такім тыпам, які, заехаўшы ў вельмі захудзелы калгас, у якім людзі жылі выразна бедна, ставіў гаспадарам страшэннае пытанне: „Угощать будете сразу или после выступлений?“ Было выразна відаць, што гаспадары і не думалі нас „угощать“, аднак прыпертыя да сцяны, разгублена адказвалі: „После встречи организуем ужин“. Самазадаволены нахабны пісьменнік пасля нам выясніў: „Да вы поймите, только таким образом обучим их культуре“. На шчасце, пісьменнік гэты быў рускамоўны. Аднак і ў беларускіх аўтараў заўважаліся час ад часу карысталюбівыя адносіны да тых прадпрыемстваў, якія прадукавалі нешта такое, што можна было ўзяць з сабою. Дарэчы, вельмі часта гаспадары без ніякага прымусу частавалі нас вельмі сардэчна і давалі „на дарогу“. Здаецца мне, што такі „бытавізм“ пісьменнікаў не спрыяе будаванню аўтарытэта пісьменніка. Быць можа, аднак, не трэба тут трагізаваць, бо ва ўсім сказаным праяўляецца наша беларуская сарамлівасць, якая характарызуе таксама і беларускіх пісьменнікаў. Зразумела, не ўсіх.

Тут аднак я хацеў бы болей выразна вярнуцца да тэмы беларускага сораму і беларускага гонару. У часе аўтарскіх сустрэч многія мае савецкія калегі кранал гэтую тэму. У большасці выпадкаў рабілі гэта нецікава і не пераканаўча. Давялося мне, напрыклад, сотні разоў слухаць „аргумент“, які меў сведчыць аб дасканалым стане беларускай культуры. Беларускія пісьменнікі вельмі часта гаварылі, што калі б паставіць усе кніжкі, выдадзеныя ў БССР, хрыбтом пры хрыбце, дык сцежка з гэтых кніжак працягнулася б аж у Маскву. Чаму гэты аргумент быў для мяне мала верагодны? Па-першае, таму, што ніводзін з тых, хто паслугоўваўся гэтым аргументам, не гаварыў, колькі ў гэтай сцежцы беларускіх кніжак, а колькі рускіх. Калі б дакладна палічыць, дык аказалася б, што працэнт беларускіх кніжак вельмі невялікі. Значыць, доўгая сцежка сведчыла не аб пазіцыі ў БССР беларускай культуры, а рускай. Думаю, што вельмі добра загучэў бы гэты аргумент, калі б ім паслужыўся шчыры русіфікатар, даказаўшы чорна на белым, што беларуская кніжка ў параўнанні з рускай у Беларусі з'яўляецца сіратой-служанкай, тады, калі рускую кнігу можна параўнаць да княгіні.

Характэрнае для мяне ў тэтым „аргуменце“ і яшчэ нешта іншае. Цікава, што ніводнаму з пісьменнікаў не прыйшло ў галаву, каб сказаць, што кніжак, выдадзеных у Беларусі, хапіла б, каб злажыць з іх сцежку ўздоўж, скажам, дзяржаўнай мяжы з Літвой, Латвіяй, Эстоніяй і Расіяй, ці можа яшчэ далей. Цікавы быў бы для мяне вывад, скажам, такі: кніжак, выдадзеных у БССР, хапіла б для таго, каб злажыць з іх сцежку з Беларусі ў Італію (або палову гэтай адлегласці), дзе вучыўся друкарству Францішак Скарына, або хапіла б да чэшскай Прагі, дзе друкаваў Скарына першыя старабеларускія кніжкі. Не! Барані Божа! Абавязкова беларускія кніжкі трэба было ўкладаць у кірунку Масквы, з якой, як вядома, былі выгнаны маскоўскім натоўпам на чале з манахамі-перапісчыкамі прадаўжальнікі друкарскай справы Францішка Скарыны. Зразумела, было б найлепш, калі б з такога факту, як кніга, не рабіць ніякай палітыкі і не надаваць прамаскоўскай ці антымаскоўскай арыентацыі. Зусім па-другому маецца справа з руска-беларускімі прапорцыямі ў выдавецкай беларускай справе. Я ўпэўнены, што дажыву часоў, у якіх прапорцыі гэтыя заменяцца месцамі, і колькасць беларускіх кніжак будзе такая, як сёння рускіх, а рускіх такая, як беларускіх. І не будзе ў гэтым ніякай крыўды для рускіх. Проста вернемся да стану нармальнасці. Гэтага патрабуе наш нацыянальны гонар.

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына“** было створана ў Мінску. Ва ўстаноўчай канферэнцыі Згуртавання прымала ўдзел дэлегацыя беларусаў з Беласточчыны. У яе складзе былі, між іншым, **Сакрат Яновіч, Віктар Стахвюк і Ян Максімюк.** Пра канферэнцыю напішам у адным з бліжэйшых нумароў.

**У вайсковым паломніцтве на Ясную Гару** ў Чэнстахове прымала ўдзел 10 тысяч салдат Войска Польскага і некалькі тысяч ветэранаў. З лістам да ўдзельнікаў пілігрымкі звярнуўся прэм'ер-міністр **Тадэуш Мазавецкі,** які падкрэсліў, што іх прысутнасць на Яснай Гары красамоўна сведчыць аб зменах у арміі.

**Краёвая канферэнцыя Грамадзянскіх камітэтаў** праходзіла ў Варшаве. Яе ўдзельнікі прызналі, што першым крокам у кірунку цалкавітай дэмакратыі павінен быць адыход **Войцеха Ярузельскага** з паста прэзідэнта Рэчыпаспалітай Польскай і правядзенне ўсеагульных прэзідэнцкіх выбараў.

**Антыклерыкальныя дэманстрацыі** ў Кракаве і Гданьску арганізавала Анархісцкая федэрацыя. Члены гэтай групоўкі пад лозунгам „Рэлігія прэч са школы“ дамагаліся рэферэндума ў справе навучання рэлігіі.

**У падмаскоўнай мясцовасці Новая Деревня быў забіты** святар Праваслаўнай царквы, настаяцель Срэцінскага прыхода **а. Аляксандр Мень.** У нядаўнім мінулым залічваўся ён да групы дысыдэнтаў, быў вядомым інтэлектуалістам і палымяным прапаведнікам. 30 верасня мела адбыцца ўрачыстае адкрыццё Нядзельнага праваслаўнага універсітэта, рэктарам якога быў менавіта а. Аляксандр Мень.

**Уцекачы з СССР затрымоўваюцца ў Польшчы,** а Беласток мае шанц стацца горадам бежанцаў. У пашпартным бюро беластоцкай паліцыі знаходзіцца 6 заяў, у якіх савецкія грамадзяне просяць палітычнага прыстанішча. У рэгіянальнае праўленне „Салідарнасці“ ў Беластоку з'явіліся два чарговыя ўцекачы (беларус і латыш), якія з палітычных прычын пакінулі Савецкі Саюз.

**Узрост злачынстваў,** чыненых савецкімі грамадзянамі на тэрыторыі Польшчы, і актывізацыя дзейнасці міжнародных груп рэкецёраў давялі да такой сітуацыі, што блізкае супрацоўніцтва польскай паліцыі і савецкай міліцыі стала неабходнасцю. У пратаколе, які быў падпісаны ў час візіта дэлегацыі VI Праўлення МУС СССР у Польшчы, сцвярджаецца, што „неабходным з'яўляецца максімальнае выкарыстанне магчымасцей прадстаўніцтваў МУС РП у Маскве і МУС СССР у Варшаве, а таксама ўстанаўленне непасрэднай тэлеграфнай і тэлефакснай сувязі паміж аперацыйнымі службамі абодвух бакоў“.

**Святкаванне гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі** абмежаваць толькі да парада на Чырвонай плошчы. З такой прапановай выступілі да прэзідэнта **М. Гарбачова** старшыні гарсаветаў Масквы і Ленінграда **Гаўрыіл Папоў і Анатоль Сабчак.** Прапануюць яны таксама, каб прэзідыумы гарсаветаў Расіі звярнуліся да грамадства з заклікам прысвяціць 7 лістапада на падрыхтоўку гарадоў да зімы.

**Ежы Віктар Слезак,** беластоцкі віцэ-ваявода, быў назначаны Сеймам на пасаду міністра сувязі.

# ШТО З ВАМІ, КАРЭСПАНДЭНТЫ?

Часта вяртаюся думкамі да пачаткаў майго супрацоўніцтва з „Нівай“. Успамінаю першы з'езд карэспандэнтаў, у якім я прымаў удзел. Колькі тады з'ехалася людзей! Былі і вучні, былі і даволі ўжо старыя людзі. І не толькі з аднае Беласточчыны. У вачах яшчэ ў мяне стаіць пакойны ўжо Мікола Матвеюк, даказваючы сваю бескампраміснасць у барацьбе з бюракратыяй, непарадкамі. Часта ўспамінаю таксама апошні з'езд. Невялічкая група найбольш стойкіх супрацоўнікаў тыднёвіка. Быццам апошнія маманты. І хаця настрой быў даволі яшчэ непамінкавы, а хуткія і трапныя пуэнты інж. Б. Рудкоўскіна даводзілі нават да слёз ад смеху, то ў паветры вісеў якісьці неспакой, смутак, прадказванне нейкага доўгага развітання.

Гляджу сёння на старонкі чарговых нумароў „Нівы“ і стаўлю невядома каму пытанне: дзе вы, карэспандэнты? Што з вамі дзеецца? Ці наогул бярэце яшчэ ў рукі „Ніву“? Апрача мяне і Аўроры часам напіша нешта В. Петручук, зрэдку адазвецца В. Семянюк з Раек, больш рэдка М. Лук'янюк з Белак. Праўда, зараз пачаў даваць знаць, што жыве яшчэ на гэтым свеце, А. Гаўрылюк з Відава, але абручальны пярсцёнак надта ж яму сціснуў аўтаручку. А што дзеецца з Г. Марозам са Стараберазова, Э. Вайсковічам з Гайнаўкі (як жа даўно я чытаў яго апошні матэрыял!), У. Сідаруком з Кузавы? Чаму патрацілі ахвоту да пісання Ж. Мартынюк і Б. Рудкоўскін з Бельска-Падляшскага?

Гэта факт, што наш тыднёвік зараз дужа змяніўся. Больш цяпер у ім сур'ёзных матэрыялаў, пісаных аўтарытэтнымі людзьмі. Больш таксама, а часам нават замнога, палітыкі ды гісторыі. Ці гэта добра, ці не? Цяжка адназначна сказаць. Напэўна, ранг „Нівы“ выдатна павысіўся, але ці адначасова павысіўся лік яе прыхільнікаў? Мне ўсё-такі не хапае тае „Нівы“. Той панарамы выказванняў, думак, непакояў звычайных людзей з розных закуткаў Беласточчыны і другіх мясцовасцей, раскінутых па ўсёй Польшчы. Мне здаецца, што тыднёвік быў тады больш жывы, цесна звязаны з чытачом, бліжэйшы яго сэрцу, хаця мо і адначасова з'яўляўся часопісам больш правінцыянальным. Ці нельга было б вярнуць нешта з тае даўняй атмасферы? Нанава згуртаваць пры „Ніве“ тых чытачоў, якія сваімі допісамі выдатна ўзбагачвалі круг думак і праблемаў, якімі жыве беларускае асяроддзе ў Польшчы? Каб гэтага дабіцца, трэба ў рэдакцыі такога чалавека, якім была некалі Вера Валкавыцкая. Чалавека, які хацеў і патрапіў бы заахвоціць чытача да пісання, пастаянна яго падбадзёрваць, пераконваць.

Я ведаю, што ў цяперашніх абставінах добра дзеецца, што „Ніва“ наогул яшчэ друкуецца. Але ўсё-такі, лягчэй было б ёй функцыянаваць, каб мела яна як найшырэйшы круг сваіх энтузіястаў і прапагандыстаў у тэрэне, а такімі, безумоўна, з'яўляюцца карэспандэнты. Затым, сябры-карэспандэнты, ці дазволім „Ніве“ забыць пра нас? І ці мы маем права яе забыць? Ці сапраўды не маеце праблемаў, з якімі хацелі б пазнаёміць іншых на старонках нашага часопіса?! Чаму замоўклі?

**Пётр Байко**

# З царквой і народам



**Размова з а. РЫГОРАМ САСНОЙ, настаяцелем Рыбалаўскага прыхода, даследчыкам гісторыі Праваслаўнай царквы.**

**— Айцец Рыгор, 15 жніўня 1960 года Вы прынялі свяшчэнства. 30 гадоў службы Богу і людзям — гэта ў жыцці чалавека шмат часу. Вас нашы чытачы ведаюць больш за ўсё як гісторыка Праваслаўнай царквы, а Вы перш за ўсё святар. Таму хачу запытаць аб пачатках Вашай душпастырскай працы.**

— Пасля заканчэння падставовай школы ў Орлі, падаў я заяву ў Беларускі ліцэй у Бельску-Падляшскім. Там такія людзі, як дырэктар, незабыўны Яраслаў Кастыцэвіч, далі мне адпаведнае духоўнае выхаванне, нягледзячы на тадышнія палітычныя ўмовы. У 1957 годзе паступіў я ў Духоўную семінарыю ў Варшаве. У час навукі ў Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі з рук сённяшняга мітрапаліта Васілія атрымаў я свяшчэнства. Пастырскую практыку пачаў сярод былых уніятаў пад Пярэмышлем, а самастойны прыход атрымаў на Падляшшы ў гістарычнай мясцовасці Кодзень над Бугам. Пастырская праца на гэтых землях мела вялікі ўплыў на мае зацікаўленні. Яны засяроджваліся на гістарычных падзеях Падляшша. Ды і тэма магістэрскай працы датычыла асноў, на якіх фармавалася Брэсцкая унія.

**— Амаль 25 год пражылі Вы ў Сямяцічах. Там дапамагалі ў развіцці прыхода, пісалі свае навуковыя працы, здабывалі сімпатыю прыхаджан.**

— Гэта праўда, што амаль чвэрць стагоддзя свайго жыцця пакінуў я ў Сямяцічах. Перыяд гэты ўспамінаю з вялікім сентыментам. Быў там вікарным свяшчэннікам і давялося памагаць намнога старэйшаму гадамі настаяцелю, між іншым, у рэстаўрацыі прыхадской царквы, асабліва пасля пажару ў 1975 годзе. Потым займаўся я царквой і могілкамі ў Рагаўцы. Асабліва многа працы і такту прыйшлося мне ўнесці пры адбудове філіяльнай царквы ў мястэчку Цехановец. З'яўляецца яна прыгожым аб'ектам у панараме гэтага гарадка, а духоўныя ўлады рэактывавалі нядаўна пры ёй самастойны прыход. На маю долю выпала пабудова вялікага прыхадскога дома ў Сямяцічах. Усе гэтыя працы маглі быць зроблены толькі дзякуючы вялікай ахвярнасці прыхаджан і іх сімпатыі, бо магчымасці вікарнага свяшчэнніка былі даволі абмежаваныя. Аднак служба Богу і людзям была пастырскім дэвізам і давала мне многа задавальнення.

Акрамя пастырства, зацікаўленне гісторыяй не адступала ад мяне. Інтрыгавала мяне жыццё людзей і царквы на гэтых землях. Дзякуючы зычлівым асобам, мой бібліятэчны фонд пачаў пашырацца, а я стаў наведваць архівы і бібліятэкі ў краіне і за граніцай. Паявіліся першыя публікацыі.

**— У 1987 годзе Вы прыехалі ў Рыбалы. Скажыце, ці гэта праўда, што шмат вернікаў па вёсках не хоча часта „непакоіць“ Госпада Бога і рэдка прыходзяць на Багаслужбу?**

— На станоўчыя жаданні духоўных уладаў я стаў настаяцелем прыхода ў Рыбалах. Прыхаджане вельмі шчыра мяне прынялі. Умовы працы тут зусім іншыя. Амаль усе людзі праваслаўнага веравызнання, не лічачы каля 30 сем'яў католікаў, якія працуюць тут на сельскагаспадарчым камбінаце. Аднак вясковы прыход старэе. На працягу трох гадоў я ахрысціў 30 асоб, а каля 90 вернікаў пахаваў. Да гэтага яшчэ трэба дадаць безупынны адплыў самых прадуктыўных жыхароў на пастаянную або часовую работу ў гарады. Гэта дае вобраз сённяшняй вёскі. Такая сітуацыя мае вялікі ўплыў і на наведванне царквы. Аднак прычын адсутнасці некаторых людзей у царкве трэба шукаць у далёкім мінулым. Жыхары нашых вёсак — гэта прапраўнукі паншчыны, калі трэба было працаваць шэсць дзён для пана, а сёмы дзень прысвяціць на збіранне ягад, грыбоў, а таксама на адпачынак, на сустрэчы на рынку або праявіць несвядомую ляноту. Такая ментальнасць пакутуе яшчэ і па сённяшні дзень.

**— Вернемся цяпер да другой Вашай дзейнасці — як гісторыка. Адкуль Вашае навуковае зацікаўленне лёсамі нашай царквы?**

— Як я ўжо сказаў, пастырская праца цесна звязана з нашым народам, які мае багатую гісторыю. Умовы, у якіх даводзілася яму жыць і працаваць, былі вельмі цяжкія. Гэта крышталізавала яго волю і свядомасць. Не лепшыя ўмовы былі і ў Праваслаўнай царкве. Я з'яўляюся сынам гэтай зямлі, таму мая цікаўнасць штораз больш пашырае граніцы нашай тоеснасці.

**— Вы з'яўляецеся аўтарам манаграфій многіх праваслаўных прыходаў. Некаторыя з іх друкаваліся ў царкоўных і беларускіх выданнях. Вашы працы вельмі патрэбны для праваслаўных жыхароў Беласточчыны. Чытаюць яе не толькі гісторыкі. Ці можна спадзявацца падрыхтоўкі да друку манаграфіі ўсіх праваслаўных прыходаў Беласточчыны?**

— Сабраны мною матэрыял я пагрупаваў паводле прыходаў на Беласточчыне, таму што свае пошукі абмяжоўваю цяпер да граніц сённяшняга ваяводства. Гэта дае магчымасць напісаць манаграфію кожнай царквы. Некаторыя з гэтых манаграфій былі ўжо апублікаваны. Астатнія чакаюць. Думаю, што прыдзе такі час, калі кожны прыход будзе патрабаваць такой апрацоўкі.

**— Трохтомная бібліяграфія прац і крыніц да гісторыі праваслаўных прыходаў Беласточчыны атрымалі пазітыўныя рэцэнзіі. Друкаваліся яны і ў „Ніве“. Ведаю, што рыхтуеце наступныя часткі бібліяграфіі. Ці хутка іх пабачым у друку?**

— Дзякуючы зычлівасці і зразуменню некаторых людзей, частка гэтых матэрыялаў магла пабачыць белы свет. Выйшлі з друку: алфавітная, храналагічная і асабовая бібліяграфіі. Чакаюць друку бібліяграфіі: архітэктурная, дэмаграфічная, геадэзійная і бібліяграфічная. Цяпер я падрыхтаваў дадатак да алфавітнай бібліяграфіі. І ён будзе апублікаваны тады, калі знойдзецца спонсар. У іншым выпадку застануцца толькі машынопісы для нашчадкаў.

**— У Вас вельмі сімпатычная матушка. Ці дапамагае яна Вам у душпастырскай і навуковай працы?**

— Не толькі сімпатычная, але і вельмі зычлівая, а ў цяжкіх хвілінах спагадлівая. Яна выпускніца Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы і для яе справы нашых людзей неабыякавыя. Наогул мая сям'я — дачка і сын, а раней вечнай памяці мама, сваёй зычлівай паставай заахвочваюць мяне захапляцца архіўнай „макулатурай“. Не ўяўляю таксама душпастырскай працы без дапамогі матушкі.

**— Трэба дадаць, што падрыхтоўка матэрыялаў патрабуе грошай. Ці сям'я гэтага не адчувае і ці згаджаецца несці дадатковыя кошты?**

— У маёй сітуацыі амаль усе фінансавыя лішкі „утоплены ў паперы“. А кампенсацыяй з'яўляюцца апублікаваныя тэксты. Напэўна, мае зацікаўленні цяжкія і дарагія для сям'і, аднак іх станоўчыя адносіны да маёй навуковай працы яшчэ больш мяне мабілізуюць. Свае выказванні хачу закончыць, хоць можа гэта і не скромна, словамі слаўнага Рыгора Хадкевіча з прадмовы да „Заблудаўскага Евангелля“ з 1569 года: „Думаў пра тое, каб для зразумення простых людзей перакласці гэту кнігу...“, а я стараюся зрабіць спробу, каб нарысы гісторыі нашай царквы паказаць нашым людзям.

**— У сувязі з нядаўнім юбілеем прыміце ад мяне асабіста, ад рэдакцыйнага калектыву і чытачоў „Нівы“ найлепшыя пажаданні ў Вашай душпастырскай навуковай і грамадскай працы.**

**Шчыра дзякую за размову.**

**Гутарыў Антось Мірановіч**

## Сустрэчы пасля году непрысутнасці

Не было мяне ў Бельску, мабыць, з год. Цяпер я вярнуўся, заходжу да інж. Барыслава Рудкоўскіна, а ён гаворыць:

— Сумна мне было па табе. Паехаў ты ў мазурскі край, а мне няма з кім ездзіць апісваць прыроду.

— Няма справы, — кажу, — можам сядаць на веласіпеды і ехаць.

— Паедзем у Аўгустова, — кажа ён, — пабачымся з нашым сябрам, бацюшкам Яўгенам Хадакоўскім.

Дзень быў сонечны. Вецер спрыяў нашай паездцы. Каля рашарні павіталі нас старыя тоўстыя таполі (па 560 см па акружнасці).

За горадам стаяла пшаніца залатая, людзі капалі раннюю бульбу. Цешыць вока родны краявід. Сэрца радуецца, што ўсё так расце, што будзе ўраджай.

Уязджаем у вёску Аўгустова. Прыгожа. Чыста. Усе платы памаляваны. Людзі сядзяць на лавачках, адпачываюць. Пры адной хаце чалавек уголас чытае „Ніву“ старэнькім бабулькам, што прыселі на траве. Мінаем старую сажалку. Калісьці тут было багата рознай рыбы. Плавалі гусі і качкі. Цяпер гэта сметнік. Тут валяюцца старыя колы ад вазоў, ад трактараў і іншае смецце. Калі ж людзі навучацца быць культурнымі, калі іх будзе гневаць такі выгляд свайго асяроддзя?

Заязджаем да бацюшкі. Ён тут, на двары, каля сваёй „Волгі“. Прывіталіся мы, як родныя. Ёсць аб чым пагаварыць. Матушка запрашае на чай. Які ж пахучы пірог яна падае на стол!

Наш свяшчэннік Яўген Хадакоўскі не толькі настаяцель царквы, ён і добры гаспадар: гадуе авечак, сее збожжа, прыхадскі дом прыгожа абгарадзіў сеткай. Прыхаджане дапамаглі перакрыць клуню бляхаю. Святар у нас малады, але ўжо многа зрабіў добрага для прыходу. А ў планах яго яшчэ — пабудаваць часоўню на ўрочыску Баравішча, дзе калісьці стаяла царква і крынічка ёсць. Там выплывае рака Любка. План на будучую часоўню зрабіў інж. Рудкоўскін.

Вярнуліся дадому вечарам. У мяне быў цудоўны настрой. Як добра, што ёсць у нас такія культурныя людзі, як тыя, з кім я правёў гэты летні дзень.

**Андрэй Гаўрылюк**

## УСХОДНІЯ КРЭСЫ ДАЛЕЙ ПОЛЬСКІЯ

Арганізацыйны камітэт Кансерватыўнай партыі ў Варшаве перадаў для ПАП заяву эміграцыйнага ўраду Рэчыпаспалітай Польскай у справе польскіх усходніх зямель, у якой сцвярджаецца, што ён „ніколі не прыняў і не прымае ялтанскіх рашэнняў, прытрымліваючыся погляду, што захопленыя Саветамі землі далей з'яўляюцца польскімі. Усходняя мяжа Польшчы з яе суседзямі — Літвой, Беларуссю і Украінай — можа быць устаноўлена толькі вольнымі і суверэннымі парламентамі гэтых краін і Польшчы“, — паведамляе заява.

**(ПАП)**




## НАШ ЛЁС БЕЛАРУСКІ

Пісьмо М. Баяроўскага („Ніва“ ад 12 жніўня 1990 г., „Дапамога“) яшчэ раз паказвае падыход польскіх арганізацый у Англіі да нас, беларусаў. На зварот Беларускага камітэта дапамогі ахвярам чарнобыльскай трагедыі „Дзеці Чарнобыля“ ў Англіі з сімпатыяй і хрысціянскай ахвярнасцю адгукнуліся англічане. Каталіцкая парафія ў Вест Мідлендс сабрала лякарстваў і медыцынскіх прыладаў на суму 27 тысяч фунтаў. Ахвярнасць людзей добрай волі дазволіла камітэту перадаць у шпіталі на Беларусі звыш 1,5 тоны медыкаментаў.

Калі М. Баяроўскі, былы жаўнер арміі Андэрса, звярнуўся да польска-каталіцкага клуба ў Бірмінгеме з просьбай дапамагчы ахвярам Чарнобыля, то яго просьба ўпала ў глухое вуха кіраўніка клуба. Гэты факт паказвае, як нас шануюць і паважаюць нашыя заходнія суседзі. За іхняю „дабрачыннасць“ няхай іх Бог судзіць. Трагедыі нашай нацыі я ім не жадаю.

Пра заходнія землі Беларусі, т.зв. крэсы ўсходнія, няхай польскія эміграцыйныя арганізацыі забудуцца. Пасля рэвалюцыі і распаду Рускай Імперыі беларускі народ у сям'і іншых еўрапейскіх народаў пачаў адбудоўваць сваю незалежнасць. 25 сакавіка 1918 г. у Мінску быў скліканы з'езд дэпутатаў з усіх куткоў Беларусі. На гэтым з'ездзе Беларусь была аб'яўлена вольнай, суверэннай краінай. Рыжскі трактат 1921 г. падзяліў Беларусь паміж Польшчай і Саветамі без згоды беларускага народа. Трактат гэты беларусамі ніколі не быў прызнаваны.

У пачатку 20-х гадоў польскія ўлады абяцалі беларусам поўную аўтаномію. Беларусы пачалі адкрываць свае школы, уводзіць сваю адміністрацыю, ствараць культурныя і палітычныя арганізацыі. Каталіцкія і праваслаўныя святары пачалі адпраўляць багаслужбы на беларускай мове. Усё гэта напалохала польскі ўрад. Каб спыніць беларускі рух, палякі пачалі насяляць беларускія землі асаднікамі, падмяняць беларускую адміністрацыю польскай, закрываць беларускія школы, а на іх месца адкрываць польскія з польскімі настаўнікамі. Каталіцкае беларускае духавенства па загаду польскай касцельнай іерархіі было перасялена ў польскія парафіі або выслана ў кітайскія або іншыя далёкія місіі. Беларускіх дзеячаў, якія змагаліся з паланізацыяй, арыштоўвалі, саджалі ў турмы. З усіх беларускіх школаў да 1939 г. асталася толькі адна беларуская гімназія ў Вільні.

У 1939 г. Чырвоная Армія акупавала Заходнюю Беларусь, быццам бы вызваляючы яе з-пад польскай акупацыі. Беларусы пачаткова былі таму прыхільныя, бачачы ў гэтым уз'яд-


**(Працяг на стар. 5)**


Свойскія малюнкі



*Беласток, вул. Мазавецкая.*
*Мал. У. Пэтрука.*

## САКРАТ ЯНОВІЧ
## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

— 13 —

Уважлівы чытач маіх падарожных задуменняў пэўна заўважыў, што ў Беларусі абсурд даганяе абсурд. Беларус не хоча быць беларусам, перакрэсліваючы ў сабе гэтым самым амбіцыі дзеля агульнанацыянальнага дабрабыту і маральнай чалавечнасці. А патэнцыял рэспублікі не слабенькі: даўшы яму людскае кіраўніцтва, можна было б зажыць у тым „бээсэсэры“ не бядней за Польшчу. Годнасць працы камунякі не паспелі ўшчэнт зглуміць, у заходнебеларускай Гродзеншчыне, у Брэстчыне, якім пашчасціла пабыць да вайны „пад палякамі“.

Асуджанасць Беларускай ССР на ўласную суверэннасць спраўдзілася хутчэй, чымсьці я думаў. Але ў яе істоце не памыліўся: рэалізавалася яна, тая „непадлегласць“, неяк у радэзійскім варыянце (у эпоху дэкаланізацыі Афрыкі англійская Радэзія не пажадала стацца негрыцянскім Зімбабвэ і абвясціла незалежнасць, адмовіўшыся слухацца Лондан). Чытаў я пераказы настрояў у Вярхоўным Савеце БССР у той дзень 27 ліпеня, калі беларуская апазіцыя пакінула сесію т.зв. беларускага парламента і тады партыйныя дэпутаты дружна прагаласавалі, што хацелі. Думаеце, хоць яны, чырвоныя суверэны, не пашкадавалі сабе ўхвальнай авацыі ды хмельнай радасці да белага рання? Нічога падобнага не адбылося: панура падымалі руку „за“ і, пагорбленыя ад згрызоты, разыйшліся-раз'ехаліся дамоў. Калатун трос імі — яшчэ ў маі месяцы не дазвалялі заікнуцца хаця б пра ліпную беларускую самастойнасць, а вось летам самім давялося фармуляваць яе. Абяцаць утварэнне Беларускай Арміі, паліцыі, валюты, дыпламатычнай служ-бы; караць судом за антыбеларускасць, чуцца не сагнутым у дзве напасці ў стасунках з Масквою... Божа мой, ты бачыш і не грыміш! Смяротна прыдушаную Беларусь прымушаюць з Крамля рэанімаваць, вяртаць да жыцця! „Черт знает, что такое делается? С ума сойти!...“

Параною гэтай залежнасці паказвае гісторыя чарнобыльскай трагедыі. Амаль чатыры гады злачынна маўчалі пра яе („нельзя!“), нават пабудавалі ў той **зоне смерці** шмат што, м.інш. восемдзесят новых школ ды прадшколляў, бы на пацеху для кастухі. Аруць і сеюць, радыёактыўны хлеб пякуць! Паміральнасць дзяцей у пяць разоў большая, чымсьці, напрыклад, у Японіі або ў Швецыі... А на паўднёвым усходзе Беларусі выжыве, можа, адно з пяці?

Знаходзяцца і аптымісты. Але і яны не адважваюцца паменшыць забойчы эфект Чарнобыля ніжэй дзесяці выбухаў атамных бомбаў (а на японцаў кінулі ў сорак пятым усяго ж дзве!). Няма цяпер аніякіх аргументаў супроць здогадаў, што таму нічога не было роблена для выратавання народу, каб пры гэтай няшчаснай нагодзе эксперыментаваць на ім вынікі магчымай нуклеарнай вайны!

Аглушаны ўсім гэтым, пайшоў, куды вочы мяне неслі. З вуліцы Леніна выбраўся я на праспект Леніна, адкуль трапіў пад помнік Леніну, потым — універсітэт імя Леніна, затым у вялікую бібліятэку, званую Ленінкай; і зноў нешта падленінскае. Няхай ён толькі ўваскрэсне: дасць, дурням, за гэткую сваю ганьбу ідала — у хвост і ў грыву! — малапісьменным язычнікам камунізму.

*(Працяг будзе)*




**Шаноўная рэдакцыя „Нівы“!**

Ужо некалькі гадоў выпісваю Вашу газету, але апошнія месяцы, як вам вядома, мы, Вашы чытачы на Беларусі, яе не атрымліваем. Звяртаўся з гэтым пытаннем да двух дэпутатаў Вярхоўнага Савета, каб урад дапамог у гэтай справе, але зрухаў пакуль няма... Напэўна, не ўсё ім яшчэ пад сілу. Спадзяюся, што ўсё гэта ў хуткім часе выправіцца станоўча. Добра было б, каб гэта адбылося да канца падпіснай кампаніі на наступны год, таму што зараз людзі не ведаюць, як ім быць. Падпіска на „Ніву“ ў БССР таксама залежыць ад таго, ці будзе яе індэкс у рэспубліканскім каталогу перыядычных выданняў.

Маю да Вас невялікую просьбу: дашліце мне, калі гэта не вельмі цяжка, інфармацыю пра беларускія радыёпраграмы ў Польшчы.

Дасылаю Вам гэтым лістом тры беларускія газеты.

**Уладзімір Цярохін, Мінск**

**Ад рэдакцыі:** За дасланыя газеты шчыра дзякуем. Нам таксама вельмі хацелася б, каб станоўча вырашылася справа падпіскі нашага тыднёвіка на Беларусі. Маем надзею, што „Саюздрук“ ці „Международная книга“ дасць заказ у варшаўскую фірму „Арс Полёна“, якая экспартуе прэсу, або беспасрэдна ў Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Беластоку, якое выдае „Ніву“.

А вось інфармацыя пра беларускія радыёперадачы ў Польшчы, якія надае Беластоцкае радыё. Публіцыстычна-інфармацыйная праграма „Пад знакам Пагоні“ выходзіць у эфір ад панядзелка да пятніцы а гадз. 8.30—8.45 (паводле варшаўскага часу), а паўтараецца а гадз. 18.45—19.00 і ў суботу а гадз. 18.45—19.00. Царкоўная перадача „Духоўныя сустрэчы“ выходзіць у эфір у суботы а гадз. 8.30—8.45. У нядзелю а гадз. 8.00—8.30 можна паслухаць „Беларускі радыёчасопіс“. Усе перадачы выходзяць на хвалях УКХ — 72,8 МГц і 72,68 МГц.

## СТУЖКІ ПРАЎДЫ

— Ды і хто верне жыццё таму Здзіську? Ён, напэўна, ужо згніў, то ж гэта ўжо больш пяці год! Хто яму жыццё верне, калі нават і знойдуць, хоць цяпер, таго забойцу! Зрэшты, ужо ўсё сплыло, хто цяпер каму дакажа? Тады не даказалі, што цяпер могуць..?

— Вы тады ўсе ведалі, палавіна Гайнаўкі ведала, хто гэта зрабіў, але нічога не хацелі казаць міліцыі. А Яўген Б. быў арыштаваны, чатыры месяцы да суда сядзеў на Капэрніка...

— Калі ён не быў вінаваты, то і не маглі засудзіць!

— Так гаворыце — „не быў вінаваты", але ж быў ён нявінна абвінавачаны! А чатыры месяцы сярод злачынцаў?

— Калі справядлівы чалавек, то нічога кепскага не набярэцца...

— На судзе сказаў, што пад біццём даваў паказанні. У прысудзе было — не „невінаваты", а „не даказалі віны"; дамагаўся праўды. Пасля дамагаўся, каб вярнулі яму грошы, якія мог зарабіць у сябе на прадпрыемстве тады, калі быў у арышце, а на гэта меў права. Адвакат параіў Ганне Б., каб не калупаліся ў гэтым, бо і так не выйграюць.

— Вядома, суды каштуюць, а жыцця чалавеку і так не вернеш...

— Гаворыш пра жыццё забітага хлопца і пра жыццё Генька Б., якому гэтая справа адабрала здароўе, веру ў людзей і зацкавала ў асяроддзі. А я яшчэ раз пытаю: уся Гайнаўка ведала і ведае, хто сапраўдны злачынца, а чаму людзі маўчалі?

— Але чаго зноў чапаць гэтую справу? Яшчэ аднаго чалавека дабіць? Ён жа тады не спецыяльна піхнуў Здзіська пад рэстаранам! Вядома, як то падпітыя хлопцы: той таго піхне, ці штурхане, часам хто крыху мацней, і ўсё! Тут жа ніхто з нажом на нікога не ляцеў, не рэзаў! А той галавой аб грань тратуара ляснуў! Што зробіш? Так яму і пісана было маладому памерці. Шкада хлопца — толькі з арміі выйшаў, адзін сын застаўся ў бацькоў.

— У мяне ёсць яшчэ „стужкі праўды", якія запісала на схаваны магнітафон Ганна Б. Гэта




страшны дакумент, дакумент ментальнасці і псіхікі жыхароў горада, застрашаных ці раўнадушных, якія ведаюць многа...

— Гэта было несумленна — запісваць, калі людзі не ведалі, а потым з гэтым бегчы ў міліцыю. А вы друкавалі такую бязглуздзіцу...!

— Гэтыя запісы, пакуль іх фрагменты падала я да друку, выслухаў ваяводскі пракурор і дазволіў публікаваць, спадзяючыся, што дапамогуць у следстве. Паслухайце:

„Я вам скажу гэта, толькі ў таямніцы. У мяне ж свае дзеці... Ён бачыў, як Ж. забіваў, але аб гэтым нельга гаварыць, Божа барані! Чалавек сказаў маці, што выпадкова бачыў, але навошта, каб яго цяпер цягалі? І навошта мне гэта? Каб я ворага нажыла сабе смяротнага? Міліцыя сама дойдзе, хто вінаваты. Ведаюць усе, а сказаць не скажуць".

Магнітафонная стужка бясстрасная. Цяпер можам яе слухаць толькі як рэпартаж з жыцця аб тым, якія сапраўды ёсць людзі — ведаюць многа, баяцца, моўкнуць, пагражаюць, калі іх „непакояць", нават перашкаджаюць у працы адпаведным службам. Для свайго спакою?

— Я не хацела і не хачу абвінавачваць чалавека, які сапраўды з'яўляецца забойцам. Гэта, напэўна, сталася выпадкова, — кажа маці Яўгена, Ганна Б. — Нічым ужо не паможам ні мёртваму, ні яго сям'і. Як гэта цяжка перажыць, ведаю добра сама, бо і я падобным чынам страціла старэйшага сына. Але як можа існаваць такая несправядлівасць лёсу?

А людзі?

Яўген, калі вярнуўся з арышту, не знайшоў ні сяброў, ні працы ў сваім горадзе. З кожнага боку падалі словы: „Як гэта маглі забойцу выпусціць?!" Не ўнявіннілі ж яго, а толькі „не даказалі віны"! Пачаў даязджаць на працу ў Н., але там яго праследваў брат забітага. Дастаў Яўген прызыў у армію: быў раней хлопец, як дуб, займаўся культурыстыкай. А тут аказалася, што не надаецца для арміі. Гумовая палка „стражнікаў справядлівасці" адбіла здароўе (пасля допытаў пляваў жоўцю). Адслужыў Яўген свой абавязак Айчыне ў цывільнай абароне. Потым прабаваў працаваць у Гайнаўцы, але нервы не вытрымалі. Выехаў у іншы горад.

Тыя, што ведаюць сапраўднага забойцу, даўно набралі вады ў рот. Не прыехалі, як сведкі, на суд. Цяпер пры сустрэчы з маці Яўгена адварочваюць галовы. Адзін сказаў, даўно супакоіўшы сумленне:

— Ваш сын не сядзіць, а Ж. мне цяпер не пагражае. Забітаму жыцця і так не вернеш... А што Генік сядзеў — ну, быў арыштаваны чатыры месяцы, то таксама забудуць...!

— Ты ведаеш, што перажыў

(Працяг на стар. 8)




(Працяг са стар. 4)

нанне ўсёй Беларусі. Аднак радасць гэтаму не трывала доўга. Сталінскі тэрор пачаўся арыштамі асаднікаў і былой польскай адміністрацыі. Затым бальшавікі сталі арыштоўваць беларускую інтэлігенцыю і палітычных дзеячаў, прышываючы ім марку нацдэмаў. Пачалі раскулачваць багацейшых сялян і вывозіць у Сібір.

У 1941 г. пачалася нямецка-савецкая вайна. Польскі эміграцыйны ўрад, які знаходзіўся ў Англіі, стаў арганізоўваць 2-гі корпус і ім патрэбныя былі людзі. Многа польскіх грамадзян, у тым ліку і беларусаў, знаходзілася ў Сібіры. Сталін дазволіў з заключаных польскіх падданых арганізаваць польскія вайсковыя часці. Беларусы, як і другія нацыянальнасці, убачылі нагоду вылезці з сібірскага пекла і падаліся ў польскае войска. Хутка беларусы апынуліся на палях баёў пад Тобрукам, Монтэ-Касіна і іншых. Шмат з іх аддала сваё жыццё за свабоду Еўропы і на славу Польшчы. На жаль, польскія эміграцыйныя арганізацыі, як і іхні друк, пра гэта маўчаць.

Беларускі народ на працягу ўсёй сваёй пакутнай гісторыі цярпеў і церпіць не па сваёй віне, а па віне чужых. Чарнобыльская трагедыя павінна аб'яднаць нас усіх незалежна ад таго, куды нас лёс кінуў, і усімі сіламі дапамагчы суродзічам на Бацькаўшчыне перамагчы радыяцыйныя наступствы, каб будучае пакаленне не памерла, а жыло.

С.Б., Англія




### З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.

— 25 —

Усе грамадзяне Беларусі павінны гуртавацца вакол Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і беларускага ўраду, павінны стварыць на Беларусі воласныя, павятовыя і гарадскія беларускія рады, каб такім чынам арганізаваны народ мог узяць у свае рукі ўладу на ўласнай айчыне. Цвёрда стоячы на грунце дасягненняў рэвалюцыі, беларускі ўрад усімі сіламі будзе падтрымліваць юрыдычны парадак на сваёй зямлі, імкнучыся да таго, каб згодна з пастановамі, прынятымі заканадаўчымі ўстановамі Беларускай Народнай Рэспублікі, галоўнае багацце перайшло ва ўладанне дзяржавы, каб тыя, што сваёй працай на зямлі кормяць краіну, былі справядліва надзелены зямлёй, каб узмоцнілася наша незалежная Беларуская рэспубліка і каб чужыя людзі зноў не запанавалі над намі.

Беларускі ўрад будзе старацца перш за ўсё, каб як найхутчэй сабраўся заканадаўчы беларускі сейм і каб як найхутчэй наш народ сам увёў на сваёй зямлі сапраўдную волю для ўсіх грамадзян.

Такога зместу Грамату Рада народных міністраў БНР прыняла ў Мінску 29 лістапада 1918 г.

Значная частка Рады Рэспублікі супольна з Радай Міністраў рыхтавалася да ўцёку ў Вільню. Пасля адыходу немцаў, у сувязі з тым, што бальшавікі займалі тэрыторыю Беларусі, Рада Рэспублікі, праўдападобна, абвясціла адозву да дэмакратыі ўсяго свету, пратэстуючы супраць бальшавіцкага нашэсця. З адозвай гэтай, праўдападобна, была паслана дэлегацыя ў Берлін, Парыж, Берн, Варшаву і ў Вільню да літоўскай Тарыбы.

Ад'язджаючы ў Вільню, Беларуская Рада і Рада Міністраў аб'явіла чарговую V Устаўную Грамату наступнага зместу (*падаем яе ў перакладзе з польскай мовы — дап. рэд.*):

Беларускі народзе і ўсе народнасці беларускай зямлі! Слухайце голас сваіх прадстаўнікоў, якія дзейнічаюць ад вашага імя і для вашага шчасця.

Некалькі соцень гадоў панавалі на Беларусі чужыя людзі, а наш працоўны народ гібеў у няволі і цемры. Частыя войны залівалі нашу зямлю крывёю, а сваркі паміж нацыянальнасцямі і веравызнаннямі на Беларусі атручвалі народны дух, нішчылі здабыткі культуры. Аж, нарэшце, зразумелі найлепшыя сыны Беларусі, што прычына гэтых няшчасцяў — гэта палітычная мярцвеншчына беларускага народа, яго пакорлівасці і няволя, і аб'явілі на ўсю Беларусь, што беларускі народ павінен паўстаць, скінуць путы няволі і з парабка стацца гаспадаром на сваёй зямлі.

Голас гэты распаўсюдзіўся на Беларусі і прабудзіў народ. На вялікі агульнанародны сход, які быў праведзены ў снежні 1917 года ў Мінску і які называецца Усебеларускім з'ездам, прыслаў народ беларускі каля двух тысяч найлепшых прадстаўнікоў з усіх ваколіц, усіх валасцяў, усіх закуткаў беларускай зямлі.

Не баючыся цёмных сіл, якія панавалі ў гэтым часе на Беларусі, нягледзячы на скіраваныя ў яго бок кулямёты і вінтоўкі, з'езд выказаў волю беларускага народа ў справе сваёй будучыні. Беларускі народ адракаецца ад сваіх няпрошаных апекуноў. Устанаўляе на сваёй зямлі Дэмакратычную Рэспубліку і прагне прамовіць на сусветным мірным кангрэсе вуснамі сваіх прадстаўнікоў. Стварае войска для абароны сваіх правоў і перадае ўладу ў Беларускай Радзе З'езду і яе Выканаўчаму камітэту.

Паны камісары разагналі Усебеларускі З'езд і шукалі спосабаў для знішчэння Рады З'езду, але гэта ім не ўдалося.

Пасля іх уцёкаў з Мінска, улада перайшла ў рукі Выканаўчага камітэта Рады З'езду, які стварыў першае беларускае міністэрства — Народны сакратарыят і запачаткаваў арганізацыю беларускай нацыянальнай арміі. Пасля вякоў няволі беларускі народ зноў запанаваў на сваёй зямлі.

Аднак панаванне гэта было кароткім. На працягу трох дзён увайшлі ў Мінск войскі нямецкага імператара. Гвалтам адабралі яны ў Народнага сакратарыята ўладу і паралізавалі яго дзейнасць. Пастаянна мусіў збірацца беларускі ўрад, хаваючыся ад нямецкіх жа ўдараў, аднак нават на момант не забыў аб вялікіх абавязках, якія ўзлажыў на яго народ дзевятага сакавіка 1918 года.

*(Працяг будзе)*

(Працяг са стар. 1)

няцця кампрамісных рашэнняў. Напрыклад, у прэамбуле Дэкларацыі Камісія Вярхоўнага Савета прапанавала **абвясціць Беларускую ССР суверэннай дзяржавай,** а фракцыя БНФ настойвала **ўрачыста пацвердзіць незалежнасць Беларусі** ў адпаведнасці з III Устаўной Граматай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ад 25 сакавіка 1918 г. і даць беларускай дзяржаве афіцыйную назву Беларуская Рэспубліка. У выніку кампрамісу ўхвалена **ўрачыстае абвяшчэнне поўнага дзяржаўнага суверэнітэту Беларускай ССР.** Да заваёваў дэпутацкай фракцыі БНФ можна залічыць запісы аб незалежнасці рэспублікі ў знешніх адносінах (прэамбула), аб стварэнні Нацыянальнага банку, сваёй фінансава-крэдытнай сістэмы, уласнай падатковай і мытнай службы і грашавой сістэмы (арт. 5), аб ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы (арт. 8) ці аб забеспячэнні функцыянавання беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця (арт. 9).

Фракцыя БНФ пакінула залу пасяджэнняў (выйшла 30 дэпутатаў), калі пасля абмеркавання 11 артыкула Дэкларацыі быў прыняты варыянт, што Беларускае ССР прапануе неадкладна прыступіць да распрацоўкі Дагавора аб саюзе суверэнных сацыялістычных дзяржаў. Лідэр БНФ Зянон Пазняк перад выхадам з залы зрабіў заяву, што прыняццё гэтага артыкула тое ж самае, што сунуць галаву ў пятлю. Новы саюзны дагавор у той час, калі Савецкі Саюз зжывае сябе як унітарная звышдзяржава, не што іншае як самагубства.

З удзелам дэпутацкай групы БНФ было прынята дзесяць з дванаццаці пунктаў Дэкларацыі.

*— Дэкларацыя аб Дзяржаўным суверэнітэце БССР прынята Вярхоўным Саветам 27 чэрвеня. За Вамі ўжо першыя дні незалежнасці. Як будзе ажыццяўляцца гэтае рашэнне? Што пагражае суверэнітэту?*

— Над незалежнасцю Беларусі вісіць „эканамічная бомба“. Зараз „саюзная доля“ ў эканоміцы рэспублікі даволі вялікая. Уласнасцю Саюза з’яўляецца 70 працэнтаў асноўных вытворчых фондаў БССР, 54,5 прац. таварна-прамысловай прадукцыі, 60 прац. усяго даходу, які выпрацоўваецца на тэрыторыі Беларусі. На прадпрыемствах саюзнага падпарадкавання сканцэнтравана 52 працэнты вытворчага персаналу. На гэтых прадпрыемствах праводзіцца планавая акцыя па падрыву су-

# першыя дні незалежнасці

верэнітэта рэспублікі. Міністэрствы і ведамствы СССР ствараюць некаторыя прывілеі для людзей, якія працуюць на „іх“ заводах. Напрыклад, на „сваіх“ прадпрыемствах цэнтр падняў працоўным зарплату, дазволіў выкарыстаць частку валютных сродкаў на куплю тавараў народнага спажывання. Гэты „клапатлівы“ жэст мае далёка ідучыя паслядоўнасці. Задобраныя працоўныя калектывы ўжо заяўляюць жаданне стварыць асацыяцыі саюзных прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на тэрыторыі рэспублікі. Яны, так як і раней, будуць падпарадкаваны толькі Маскве. Калі гэтыя фабрыкі не пяройдуць на ўласнасць рэспублікі, то ва ўмовах рыначнай эканомікі Беларусь акажацца ў ролі жабрачкі.

Трэба як найхутчэй стварыць новыя заканадаўчыя і нарматыўныя акты, якія напоўнілі б Дэкларацыю рэальным сэнсам. Пачалася ўжо праца над новай Канстытуцыяй. Я член рабочай групы парламенцкай камісіі па яе распрацоўцы. На першых пасяджэннях гэтай камісіі праводзілася абмеркаванне гістарычнага перыяду дзеяння новай Канстытуцыі, яе канцэпцыі. Будзе абавязкова ўлічана існаванне ў далёкай мінуўшчыне станоўчых накірункаў у гаспадарчай, судовай і грамадска-палітычнай сферы Статуту Вялікага княства Літоўскага. Павінна быць адлюстравана гістарычная пераемнасць традыцый суверэннасці, да якой імкнуліся нашыя прашчуры.

*— У 8 артыкуле Дэкларацыі запісана, што сваю свабоду і суверэнітэт Беларуская ССР у першую чаргу выкарыстоўвае на выратаванне народа ад вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Якая зараз сітуацыя ў пацярпеўшых раёнах?*

— Дэлегаты нядаўна наведалі зону чарнобыльскай катастрофы. Сітуацыя там далей цяжкая. Працягваецца вытворчасць прадуктаў на забруджанай тэрыторыі. Людзі пражываюць у асяроддзі, дзе радыяцыйная актыўнасць дасягае 100 Кі/км², хаця людзям нельга прабываць пры актыўнасці 1 Кі. Праграма ліквідацыі наступстваў катастрофы прадбачвае ў I этапе адсяленне людзей з тэрыторыі, актыўнай звыш 40 Кі, а ў II этапе — звыш 5 Кі. Акрамя таго, усе забруджаныя землі павінны быць выключаны з сельскага абароту. Людзям нельга жыць і працаваць там, дзе нельга даваць чыстую прадукцыю. На жаль, сёння гэта далёка не так. Выкананне праграмы патрабуе вялікіх укладанняў. Каля 100 мільярдаў рублёў патрэбна на адсяленне і арганізаванне жыццядзейнасці на новых тэрыторыях.

Ліквідацыя вынікаў Чарнобыля — гэта праблема нумар адзін Беларусі. Гэта не толькі фізічнае выратаванне нацыі, але і адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці. Калі б была высокая свядомасць, то вынікі чарнобыльскай катастрофы былі б сёння менш адчувальныя. Нізкая нацыянальная свядомасць, у якой было зацікаўлена палітычнае кіраўніцтва рэспублікі, не дазволіла нацыянальна свядомай частцы беларускага народа ўзняць праблему выратавання нацыі намнога раней.

*— Вы з’яўляецеся членам канструктыўнай апазіцыі ў Вярхоўным Савеце БССР, уваходзіце ў дэпутацкую групу „Адраджэнне“. Якія мэты ставіць перад сабой канструктыўная апазіцыя?*

— Стварэнне апазіцыі — гэта палітычная і жыццёвая неабходнасць. Сённяшні Вярхоўны Савет, які ў большасці складаюць людзі партыйна-адміністрацыйнага апарата, які стаіць на пазіцыях учарашняга дня, які стварыў урад на сваё падабенства, не здольны вырашаць асноўныя пытанні жыцця рэспублікі. Таму 16 ліпеня г.г. 26 дэпутатаў падало Старшыні Вярхоўнага Савета заяву аб стварэнні дэпутацкай групы Беларускага народнага фронту за перабудову „Адраджэнне“.

Класічная апазіцыя займаецца толькі крытыкай. Мы не намерваемся толькі крытыкаваць, але хочам распрацоўваць свае альтэрнатыўныя законапраекты, змагацца за іх у Вярхоўным Савеце і прабаваць ажыццяўляць.

Дэпутацкая група галоўнай мэтай лічыць напаўненне рэальным зместам Дэкларацыі аб незалежнасці, а перш за ўсё выратаванне беларускага народа і беларускай нацыі ад чарнобыльскай, экалагічнай і сацыяльнай катастроф, забеспячэнне дастойнага жыцця народа шляхам набыцця дзяржаўнай незалежнасці краіны, пераходу на рыначную эканоміку і будову дэмакратычнай парламенцкай Беларускай рэспублікі. Другая мэта — прапаганда ідэй апазіцыі сярод выбаршчыкаў, грамадства, стварэнне сваіх органаў друку і палітычнае выхаванне людзей. Зараз апазіцыйная група налічвае каля 40 чалавек і, апрача фракцыі БНФ, уваходзяць у яе і дэпутаты з дэмакратычнага клуба. Думаю, што склад апазіцыі будзе пашырацца.

Інтэрв’ю ўзяў **В. Луба**




**Фрагменты ўспамінаў Францішка Аляхновіча**

**— 2 —**

**У ВІЛЬНІ**

**Жонка вохнула: што сталася? чаму вярнуўся?**

**Я расказаў аб сваіх злыбядах.**

**І пачалося трывожнае віленскае жыццё.**

**Першым чынам трэба было вызваліцца з кватэры. Пасля — не начаваць у хаце.**

**Самая небяспечная пара — гэта ноч. Бальшавікі, як усялякая нечысць, як клапы, пацукі, мышы — праяўляюць найбольшую актыўнасць уначы.**

**Я начаваў у сваім складзіку. Там ляжала крыху саломы. Было яшчэ цёпла, было лета.**

**Раніцай я прабіраўся ў сваю хату, снедаў і, узяўшы вудачку і кошык з правізіяй, ішоў далёка за горад, на бераг ракі.**

**Я не рыбалоў і не люблю гэтага занятку. Гэта была маска, каб надаць сабе выгляд бесклапотнасці, каб выглядаць на чалавека, які нічога не баіцца, і ў гэтыя жудасныя часы спакойна ловіць рыбку.**

**У адну ноч я пачуў моцны званок да вартаўніка. Званок быў вонкі, на панадворку, а кватэра вартаўніка была непадалёк ад майго складзіку.**

**Я ўжо ў гэту ноч больш не спаў.**

**У гэту ноч узялі майго суседа, былога польскага афіцэра.**

**НА ХУТАРЫ**

**Сем кіламетраў за Вільняй мой знаёмы меў хутарок. Я папрасіўся да яго на працу. І з дзівам пабачыў, што я тут не адзін; у гэткім самым становішчы земляроба-работніка тут ужо быў віленскі сябра, беларус Ш.**

**Мы начавалі ў стадоле на сене, абмеркаваўшы добра праз якую дзірку і куды ўцякаць, калі б быў начны налёт НКВД. Месца было вельмі добрае: навокал кусты, горкі, недалёка лясок. На панадворку — злы сабака, які ў часе трывогі падыме трывогу.**

**Адна бяда: мне, нязвыкламу да сельскай працы, цяжка было. Далі мне ў рэшце рэшт найлягчэйшую работу — пасвіць жывёлу. Я меў пад сваёй апекай чатыры каровы, якіх пасвіў на лясным квадраце, па баках якога раслі жыта, бульба, капуста... Як я ні сачыў за сваімі кароўкамі, заўсёды адна ішла ў шкоду. Выганю адну з жыта, бачу — другая ўжо гаспадарыць у бульбе, выганю яе з бульбы, а тут трэцяя ўжо пажырае капусту...**

**І гэтак увесь час даводзілася кідацца з аднаго боку ў другі, прабіраючыся праз лясныя кусты, галлё.**

**Набліжалася зіма. Што далей?**

**Я перабраўся ў Вільню.**

**Жонка мая тымчасам займалася шыццём. Я намаляваў ёй шыльду, якая стаяла на вакне. Мы ўмовіліся гэтак: калі шыльда стаіць на вакне — усё спакойна, я, значыцца, магу зайсці ў хату. Калі шыльды на вакне не будзе — значыцца — небяспека.**

**МАЕ НАЧЛЕГІ**

**Я раздабыў сабе сем начлегаў у Вільні ў сваіх прыяцеляў і знаёмых. Гэтыя начлегі былі падзелены паводле днёў тыдня. Гэткім чынам мне не трэба было папярэджваць свайго знаёмага, што прыйду да яго на начлег: кожны меў свой дзень у тыдні.**

**Раніцай ішоў у сваю хату. Шыльда стаіць на вакне, значыцца добра, ноч тут прайшла спакойна, можна зайсці...**

**І зайшоў у сваю хату, увесь дзень сядзеў неспакойны, гледзячы праз вакно на вуліцу. Кожны аўтамабіль, які затрымоўваўся непадалёк ад майго дому, будзіў трывогу. Ужо я хапаў паліто і шапку, гатовы выскачыць праз другое вакно, якое выходзіла на панадворак, гэтак аблічваючы час, каб бальшавікі не паспелі абкружыць дом...**

**Як змяркалася, я ішоў на начлег.**

**Вокны НКВД ужо блішчэлі святлом, там ужо пачыналася праца начной нечысці. Праходзячы праз Лукішскую плошчу, я на сярэдзіне затрымліваўся, глядзеў навокал. Нікога нідзе не відаць. Мяне не сочаць. Ну, дзякуй Богу!**

**Толькі асветленыя вокны НКВД глядзелі моўчкі на мяне, кідаючы снапы святла на залітую восеньскім дажджом вуліцу.**

**Мой вонкавы выгляд з’іначыўся. Я аброс сівой барадой, адпаведна да гэтага перамяніў хаду, цяжка варушачы нагамі, як чалавек, зморапы жыццём і хваробай. Згорбіўся. Усклаў акуляры. Усё гэта з такім разлікам, што фігура слабасільнага старога чалавека менш падазрона выглядае, чымся здаровага і дужага.**

**Якая ж нямілая бывала для мяне неспадзеўка, калі нейкі знаёмы, спаткаўшы мяне ўвечары на вуліцы, клікаў: „А! Спадар Монвід! Як маецеся? Вы ў Вільні? Не выехалі? Не раю... лепш выязджайце...“**

**— Як жа ж вы мяне пазналі? — пытаўся я са свайго боку з вялікім дзівам.**

**— Вас! Як жа ж вас не пазнаць! Я вас здалёк пазнаю...**

**Вось і не памагае ні барада, ні акуляры, ні старэчая хада. А каб цябе!**

**Увосень мне ўдалося дастаць працу пад Ляндваровам, 30 кіламетраў за Вільняй. Тут бальшавікі будавалі шашу. Я быў пастаўлены аблічаць**

# З вандровак па роднай зямлі

(Працяг са стар. 1)

кі касцёл. Быў ён пабудаваны ў стылі неакласіцызму ў другой палове XVIII ст. на месцы папярэдняга драўлянага.

Асобны раздзел у гісторыі Кляшчэляў займала яўрэйскае насельніцтва. Яшчэ ў канцы XVIII ст. Кляшчэлі разам з Кнышынам былі адзінымі гарадамі ў Бельскай зямлі, дзе яўрэі афіцыйна не мелі права на пасяленне. Але ўжо ў XIX ст. і да II сусветнай вайны яўрэяў было тут шмат. Сведчаць аб тым рады старых, драўляных дамоў, дзе памяшчаліся крамы і майстэрні, ды знявечаныя яўрэйскія могілкі, што пры дарозе ў Чаромху.

Развітваючыся з Кляшчэлямі, яшчэ раз глядзім на непаўторную архітэктуру Мікалаеўскай званіцы ды кланяемся цудатворнай іконе. Накіроўваем далей свае крокі на Дабрывадскую вуліцу. Яна і завядзе нас у Дабрываду. Але пакуль пабачым вёску, заглянем у адно запаветнае месца, у Крывавы луг. Там, у чэрвеньскія дні цвіце найпрыгажэйшая кветка свету — белая лілея. Крывавы луг — гэта тыя рэшткі велізарных балот, што здаўна працягаліся ўздоўж лянівага Нурца. Назва ўрочышча паходзіць ад крывава-рыжай вады і сведчыць гэта несумненна аб наяўнасці жалезнай руды. Нашы даўнія продкі выкарыстоўвалі пэўна тое „рудаплавіска“. Але, каб не загразіць ў балоце, вяртаемся назад, кіруемся да жвіроўкі. Перад намі

### ДАБРЫВАДА

Вёска вялікая, у некалькі вуліц, што разыходзяцца ў розных кірунках ад цэнтральнага „пляцу“. Вуліцы маюць нават свае назвы. У памяці засталася вуліца Ціхая. Тая назва адлюстроўвае як бы характар усёй Дабрывады — цішыня і спакой, новыя дамы пераплятаюцца са старымі з як жа характэрным для Падляшша разняшчэннем хлявоў пры хаце... Калі пашчасціцца, пачуем песні дабрывадскіх бабуль. Песні тыя, песні іхняй маладосці, гучаць так сардэчна, чыста і натуральна. Яны палоняць сэрца сваёй чароўнасцю, незвычайным настроем...

Пра Дабрываду вядома ўжо ў 1560 годзе. Назву сваю ўзяла ад рэчкі Добрая Вада, што непадалёк бярэ свой пачатак. Вернікі лічаць крыніцу Добрай Вады святою і ахоўваюць гэтае месца. Добрая Вада праплывае каля цвінтарнай царкоўкі св. Параскевы. Пра яе існаванне згадваецца ў XIX ст. Служыць яна месцам апошняга зямнога прыстанішча адыйшоўшых у вечнасць і развітання вяскоўцаў з імі...

Развітаўшыся з Дабрывадаю, кіруемся ў Чаромху.

(Працяг будзе)
**Мікола Сахарэвіч**



*Драўляная званіца царквы св. Міколы з XVIII ст. у Кляшчэлях (фота з 1973 г.).*

### КУЛЬГАВЫ СЕЗОН

У апошнія гады пра турысцкі сезон у Белавежы можна было пісаць адно і тое ж, крыху толькі мяняючы лікі наведвальнікаў, якія пастаянна ўзрасталі. Зараз цяжкая гаспадарчая сітуацыя ў нашай краіне адціснула сваё кляймо і на турызме. У першых трох-чатырох месяцах гэтага года лёс белавежскіх гасцініц і рэстаранаў вісеў на валаску. Экскурсантаў ці турыстаў можна было палічыць на пальцах. Надзея паявілася толькі з надыходам поўнай вясны. Аднак пра такую колькасць наведвальнікаў, як у мінулыя гады, няма пакуль што і марыць.

Да канца жніўня г.г. Белавежу наведала ўсяго каля 53 тысяч чалавек, у тым ліку каля 5,5 тысяч — з-за граніцы (з каля 43 краін). У параўнанні з аналагічным перыядам 1989 г., лік наведвальнікаў панізіўся на... 44 працэнты! А замежных турыстаў прыехала на 53 прац. менш. Перамены ў сацыялістычных дзяржавах паўплывалі амаль на поўную адсутнасць турыстаў з Балгарыі, Венгрыі, Румыніі. Нямнога было турыстаў з Чэхаславакіі — усяго некалькі груп моладзі. Калі, напрыклад, у папярэднія гады турысты з ГДР „змагаліся“ ў занаццы першага месца з турыстамі з СССР, то зараз усходнія немцы ледзь змясціліся на чацвертым. За восем месяцаў найбольш замежных турыстаў прыехала з СССР, ФРГ, Швейцарыі, ЗША, Галандыі, Чэхаславакіі, Вялікабрытаніі, Італіі, Аўстраліі.

Раней Белавежу „ратавалі“ экскурсіі, пераважна школьнай моладзі. Зараз наглядаецца перавага індывідуальных наведвальнікаў — часта бачым цэлыя сем'і, якія карыстаюцца ўласным транспартам.

Кіраўнікі белавежскіх гасцініц сцвярджаюць, што выкарыстоўванне начлежных месцаў панізілася на 20 прац. На стольскі ж менш кліентаў маюць рэстараны. Назіраецца, што шматлікія экскурсанты прывозяць з сабой ежу, падрыхтаваную дома.

У канцы чэрвеня г.г. у Белавежы пачало працу прыватнае турысцкае бюро Тэрэсы Валкавыцкай, раней кіраўніка ліквідаванай гэзсаўскай „Сучаснай гаспадыні“. Бюро змяшчаецца ў будынку ранейшага бара „Вэймутка“. Т. Валкавыцкая вядзе яшчэ і кавярню. Гэта на белавежскім грунце сапраўдная неспадзяванка. Турысцкае бюро ПТТК мае зараз сур'ёзнага канкурэнта.

У жніўні закончыўся курс для экскурсаводаў па Белавежскай пушчы, і зараз лік пушчанскіх гідаў павялічыўся на 11 чалавек.



*У Белавежы ўсё-такі турысты трапляюцца.*

Дадам, што пачынаючы ад гэтага лета, за ўезд на стаянку аўтамабіляў трэба ўжо плаціць, хаця далей ніхто яе не ахоўвае. Павышаны таксама кліматычная аплата і плата за карыстанне з палаткавых палёў. А ўсё астатняе ў Белавежы — па-старому! Не хапае сур'ёзных даведнікаў, альбомаў, не задавальняе турыста і выбар паштовак, хаця апошнім часам з'явіліся дзве новыя з зубрамі... у зімовай пушчы. Не знойдзеш таксама цікавых, арыгінальных сувеніраў.

Тэкст і фота **Пятра Байко**

---

вазы, якія прыязджалі з пяском. Трэба было сварыцца з сялянамі за лік вазоў. Кожны з іх хацеў, каб яму запісаць большы лік паводле сапраўднага.

Тут я жыў у сялянскай хаце, адчуваючы сябе ў такой-сякой бяспецы.

Праз колькі дзён тэхнік заявіў мне, што трэба ісці ў мястэчка Трокі, дзе была галоўная ўправа будовы, каб зарэстравацца і выпаўніць анкету.

Я ведаў, чым гэта пахне. У галоўнай управе я мог спаткацца з людзьмі, якія мяне ведаюць з Вільні. Тады — капут!

Ізноў трэба было вяртацца ў Вільню. Ізноў шукаць начлегу. Спачатку ішло сяк-так. Знаёмыя прыймалі мяне ў сваю хату. Кожную ноч прыходзілася начаваць у іншым месцы. Пасля, напалоханыя бальшавіцкім тэрорам людзі, не так ахвотна дазвалялі мне начаваць у сваёй хаце. Бывала, што прыймуць вельмі ветліва, патрактуюць вячэрай з гарэлкай, але калі ў канцы спытаюся: „Брацейкі, а ці не можна было б у вас сёння застацца нанач?“ — адказ вельмі часта бываў гэткі:

— Ведаеш, браток, мы б з ахвотай, але ў нас небяспечна, тут побач жыве нейкі падазроны тып. Хто яго ведае, хто ён такі!

І прыходзілася ісці далей.

Усяляк бывала. А бывала і гэтак: не прынялі мяне на начлег. Баяліся. На другі дзень я даведаўся, што ўначы ў гэтай кватэры быў вобыск, арыштавалі гаспадарскага сына. Мне пашанцавала.

А бывала і гэтак, што прыходзілася начаваць у людзей, якія спадзяваліся з дня на дзень арышту. Што было рабіць, калі няма куды падзецца. Ужо зіма. У лесе або ў жыце не пераначуеш. Я клаўся не распранаючыся, гатовы кожную часіну, як пачуецца званок пры браме, выскачыць праз акно ў агарод. Кавалак хлеба, намазаны маслам, ляжаў напагатове, каб кінуць яго сабацы, як пачне брахаць. А там праз агарод, на другую вуліцу — і Бог бацька!

У сваю собскую хату я ўжо рэдка з'яўляўся, а начаваць дык зусім ужо не мог. Адзін пакой быў заняты кватарантамі, другі заняў упраўдом пад сваю канцылярыю, трэці — „уплатнілі“ — разам з маёй жонкай памясцілі кватарантку з пакою, занятага пад канцылярыю.

Часцей за ўсё я ішоў на могілкі і там, сеўшы перад нейкім помнікам, рабіў выгляд, быццам малюся за пахаваных тут маіх сваякоў.

### МІЛАСТЫНЯ

Адзін раз увечары я затрымаўся перад кіёскам з папяросамі, каб купіць сабе курава. Каля мяне затрымаўся нейкі работнік. Быў крыху падвыпіўшы.

— А якія ж, бацька, папяросы курыш? — спытаўся.

— Я куру самыя танныя, — адказаў я. Незнаёмы меў нейкія намеры. Мне здавалася, што хацеў распачаць са мной гутарку.

— Мусіць калісь добра жылося, а цяпер...

І незнаёмы спагадліва паківаў галавой.

Я адчыніў сваю папяросную бляшаную скрыначку, каб схаваць купленыя папяросы, як раптам нешта бразнула...

У скрыначку пасыпаліся металёвыя грошы.

Я быў здзіўлены.

— Што вы?... Нашто гэта? — паспеў я толькі крыкнуць, але мой незнаёмы ўжо прапаў у вячэрняй цемры вуліцы.

Я палічыў кінутыя грошы. Там было 45 капеек, акурат на пачак папяросаў.

Нешта мне сціснула за горла. Па твары пакацілася сляза...

Бальшавікам не ўдалося заразіць віленскія работніцкія масы класавай нянавісцю.

### НКВД ПРАЦУЕ

Ужо даўно адбыліся „вольныя“ выбары ў Сойм, ужо даўно адбылося „дабравольнае“ прылучэнне Літвы да Саюза Савецкіх Рэспублік, ужо бальшавіцкі тэрор быў ва ўсёй сваёй моцы. Лукішскі астрог быў перапоўнены. Падвалы НКВД на вул. Гедыміна, дзе раней памяшчаўся суд, былі таксама поўныя вязняў. Ад часу да часу нехта з вязняў, якога вялі на допыты, выскакваў з вакна на вуліцу. Часам падымалі чалавека з вуліцы з паламанымі нагамі, часам спрытнейшы, выскачыўшы, уцякаў. На суседніх вуліцах рабілі аблаву, шукалі, урываліся ў памяшканні...

Ці знаходзілі — не ведаю.

Цяжка было знайсці след чалавека, што трапіў у лапы НКВД. На Лукішках казалі, што арыштаваны сядзіць, мабыць у падвале НКВД, а там адказвалі, што яго няма, што трэба шукаць у Лукішскім астрозе.

Людзей арыштоўвалі не дзесяткамі, не сотнямі, а тысячамі. Ніхто, кладучыся спаць, не ведаў, ці яму ўдасца праспаць спакойна гэту ноч у сваёй хаце.

Начлегаў у мяне было ўсё менш і менш. Няма дзіва. Найлепшыя прыяцелі неахвотна прыймалі мяне ў сваю хату. І я за гэта не меў да іх ніякага жалю. Я на іхным месцы быў бы не лепшы.

Але начаваць недзе трэба.

У гэткім становішчы робіцца чалавек нахабным.

Нецярпліва я чакаў вясны, калі будзе магчымасць начаваць у лесе.

(Заканчэнне будзе)

# ПАРНАСІК

чытальніцкая літсуполка на негарантаваных паях

## БУСЛЫ, БУСЛЫ, БУСЛЯНЯТЫ...

Кружаць буслы нада мною
У блакітным небе.
Ужо рыхтуюцца у вырай,
Хаця яшчэ цёпла ў глебе.

Праўда, жыта ўжо ў клунях,
Але сонца яшчэ грэе;
Радасна хадзіць па полі,
Калі цёплы ветрык вее.

Буслы кружаць, практыкуюць,
Каб лягчэй было ў дарозе,
Каб сёлетні бусляняты
Не пакінуць на марозе.

— Буслы, буслы, бусляняты,
Чаму адлятаеце?!
На каго ж вы беднага
Хлопца пакідаеце?

Я хачу ляцеці з вамі;
Дайце ж вы мне крылы,
А вясною зноў прыбудзем,
Бо тут край наш мілы.

Не магу жа я зімою
Басанога шляцца,
Я хацеў бы ў цёплым сонцы
Па небе імчацца.

— Мы не можам цябе ўзяці,
Хаця сэрца рвецца.
Ты ж без пер'я і без крылаў,
Мусіш тут скітацца...

**Васіль Петручук**

# ТАВАРЫСТВА ЛЮБІЦЕЛЯЎ БЕЛАРУСІ

У Варшаве, дзякуючы падтрымцы Клуба каталіцкай інтэлігенцыі, ствараецца Таварыства любіцеляў Беларусі. Яно не намерваецца даваць прэферэнцыю палітычным мэтам, ані стацца інструментам для маніпуляцыі ў польскай апініі „беларускім пытаннем".

Палякі ўспрымаюць Беларусь прынамсі ў трох значэннях: палітычнае — гэта беларуская дзяржава. Няважнае ў гэтым значэнні тое, ці гаворка ідзе пра БССР, ці Беларусь, незалежную ад Савецкага Саюза. Гэты спосаб успрымання дапускае існаванне Беларусі як суб'екта міжнароднага права.

Чарговы спосаб успрымання Беларусі палякамі — гэта разуменне яе як краіны, рэгіёна Еўропы. У гэтым значэнні няважныя граніцы і формы дзяржаўнасці, а самае галоўнае — грамадства Беларусі з усім багаццем духоўнай і матэрыяльнай культуры, без нацыянальных, рэлігійных ці моўных прэферэнцый.

Трэці спосаб — гэта бачанне гістарычных сувязяў Беларусі з Польшчай. Гэты пункт гледжання на Беларусь мусіць прэферавацъ польскае пытанне на Беларусі як у гістарычным, так і сучасным значэнні.

Хаця многія грамадзяне Польшчы выводзяцца з Беларусі ў шырокім разуменні гэтага слова, то веданне роднай краіны або, інакш кажучы, роднай зямлі бацькоў, зусім малое. Амбіцыяй Таварыства з'яўляецца пашырэнне ў польскім грамадстве ведаў аб Беларусі: аб яе жыхарах, незалежна ад іх нацыянальнасці, аб іх народнай і матэрыяльнай культуры; аб беларускай мове і культуры, а таксама іншых народаў, пражываючых на Беларусі; аб мінулым Беларусі ад найдаўнейшых часоў аж да сённяшняга дня.

Асабліва важным, але і далікатным, з'яўляецца пытанне мінулага і сучаснага рэлігійнага жыцця. У правільным аналізе гісторыі хрысціянізацыі і хрысціянства насельніцтва Беларусі заключаюцца многія даследчыя праблемы, а таксама адказ на сучаснасць жыхароў Беларусі.

Таварыства не імкнецца служыць нейкай акрэсленай групе насельніцтва. Нельга ўспрымаць пытанняў гэтага насельніцтва інакш, як суцэльна.

Справамі польска-беларускіх палітычных адносін павінны займацца адпаведныя дзяржаўныя ўстановы. Справамі палякаў на Беларусі ці беларусаў у Польшчы — адпаведныя таварыствы ў садзеянні з дзяржаўнымі ўладамі. Таварыства цікавіць мінулае і сучаснасць палякаў і беларусаў у акрэсленай канвенцыі цэласнага разумення беларускага пытання.

**(З арт. З. Шпакоўскага „Беларусь у польскай перспектыве", „Плюс" з 1 верасня 1990 г.)**

# З КРЫМІНАЛЬНАЙ СТАТЫСТЫКІ

* ❋ *

Ваяводскі суд у Беластоку асудзіў Андрэя Е. (38 гадоў) на 6 гадоў турмы і 1,5 мільёна злотых кары, а таксама Вяслава В. (36 гадоў) на 5 гадоў турмы і 1,5 мільёна зл. кары за крадзеж з кафедры фізікі філіяла Варшаўскага універсітэта камп'ютэрнай апаратуры на суму 11 мільёнаў злотых.

* ❋ *

На 7 гадоў быў асуджаны таксама Міраслаў Д. за разбой і грабеж. Злачынца напаў на жанчыну, пабіў яе, забіраючы залатыя рэчы і грошы. Аказалася, што яшчэ раней гэты ж злачынца, грозячы лязом, абрабаваў таксама Яна А. Абвінавачаны дзейнічаў ва ўмовах кваліфікаванай рэцыдывы.




(Працяг са стар. 5)

Генік у арышце? Не хацеў мець нічога супольнага з арыштантамі. Але колькі яму гэта каштавала! Тады яны трактавалі яго як зачумленага. Не даўся, хоць ён ім спачатку спадабаўся і хацелі прыняць яго ў сваю кампанію „лепшых людзей"...

— Чаго да гэтага вяртацца? Быў-выбыў, цяпер усе забылі... Усё прысохла. І вы больш тут нічога не шукайце, бо і вы можаце дастаць.

— І мне нешта ўжо пагражае? Я вось хачу даказаць, як лёгка „пастароннямy" чалавеку, які адносіцца да справы абыякава, стаць супольнікам злачынства, калі здаецца, рукі памытыя.

Праўда, усё „прысохла". Ужо пяць градоў, а можа — усяго пяць гадоў. Для бацькоў Здзіська гэта не так многа. Яўген Б. назаўсёды наклейманы „пабыўкай" на Каперніка, псіхічна і фізічна прыбіты і зацкаваны, шукае шчасця і нармальнага жыцця ў далёкім горадзе, сярод чужых людзей.

Сівая Ганна Б. кажа мне:

— Бачыш, як гэта бывае! Жыццё мяне не ашчаджала. Але я заўсёды верыла ў справядлівасць і сумленне, і дзецям гэта старалася перадаць. І таму тады так цяжка мне было. А цяпер што? Ці ты добры, ці ты кепскі — дабра ад людзей не чакай...!

Я іду па Гайнаўцы. Пяць гадоў назад мой магнітафон запісаў:

— Я на тваім месцы баяўся б закранаць некаторыя справы. Можаш жа аб гэтым не пісаць. Колькі за гэты тэкст заробіш? Галава даражэйшая! Ты лепш падумай...!

**Міра Лукша**




# МАРЫСЯ

Марыся нарадзілася ў беднай сям'і. Бацька загінуў на вайне. Цяжка было жыць.

Дзяўчына вырасла прыгожай, сталі хлопцы сватацца. Марысі найбольш спадабаўся Юзаф з каталіцкай сям'і.

— Ай, — гаварыла маці, — то ж табе ўсяго 18 год! Будуць яшчэ іншыя хлопцы. Памятай! Ты не раз „кацапкай" будзеш.

— Не, мама, ён такі добры...!

Пасля вяселля Юзаф паказаў сваю дабрату. Свякруха не раз называла Марысю „чубаркай". На гаспадарцы працавалі Марыся і свёкар, а свякруха рабіла, калі ёй хацелася. Юзаф піў.

— Пойдзем жыць у горад, — заявіў муж, калі нарадзіўся ў іх сын.

У горадзе было нялёгка. Юзаф піў, а жылі амаль толькі з Марысінай зарплаты.

— Я кіну яго, — заявіла Марыся маці, калі тая прыехала ў госці.

— Не трэба, дачушка, — прасіла Дар'я. — Ён цябе не б'е, а толькі языком меле, а п'е ён не адзін. Усе чалавекі п'юць. Жыві, мо, палепшыцца.

Праз пяць гадоў нарадзілася дачушка. Юзаф не пераставаў піць.

Марыся захварэла на сэрца, вельмі часта ляжала ў бальніцы, а муж уголас цешыўся, што жонка хутка памрэ. Аднак Марыся ўсё жыла.

Сын ажаніўся. Нявестка чамусьці незлюбіла свякруху і залоўку. Колькі было дабраты і шчырасці ў Марысі і яе дачкі да нявесткі, столькі было ў яе нянавісці да іх. Сын кахаў сваю жонку, свету за ёю не бачыў. Ёй верыў, як багіні, і слухаў толькі яе.

Муж пакінуў, нарэшце, Марысю. Маладое сужонства адыйшло з дому маці. Засталася Марыся сама з дачкой. Купляла ёй модную вопратку і не шкадавала апошніх грошай на білеты ў кіно ці на марожанае — хацела, каб дзяўчына не адчувала недахопу бацькі і мела ўсё тое, што ёсць у дзяцей у багатых бацькоў.

Сын ні разу не наведаў маці. Нават тады, калі спаткаліся на вуліцы, адварочваў галаву.

— Божа мой! — плакала Марыся. — Чаму гэта так? Што я яму кепскага зрабіла? Старалася, як магла, усю душу аддавала. За што мне такая заплата?

Аднойчы Марыся глядзела ў тэлебачанні праграму, у якой маці прасіла сына, каб той адазваўся, бо ўжо два гады не ведае, дзе ён прапаў. І Марыся плакала. Дачушка старалася суцешыць яе.

Дачка пазнаёмілася з добрым хлопцам. Здавалася, не можа быць лепшага. Выводзіўся ён з сялянскай сям'і, працаваў у горадзе. Калі Люсі споўнілася 18 год, узялі шлюб. Юлек добра адносіўся да блізкіх. Так было датуль, пакуль нацешыўся кватэрай у блёку. Любіў „анельскае" жыццё. Усё хацеў выпіць і закусіць кумпяком. Вядома, што на такія збыткі не было грошай. Марыся мела малую пенсію, а Люся нідзе не працавала (муж не пусціў да працы). Юлек рашыў, што яны з жонкай павінны наняць сабе кватэру. Люся будзе ездзіць на вёску, дапамагаць ягоным бацькам на гаспадарцы. Дзяўчыне нічога не засталося сказаць. Аднойчы раніцай маладыя ўзялі ў рукі чамаданы.

— Дзеткі вы мае, ці я вам што кепскага зрабіла, — заплакала Марыся.

— Не, — сказалі згодна, — нічога дрэннага не зрабілі, але лепш нам будзе без вас!

Маці кінулася зяцю на шыю, цалавала і прасіла, але адпіхнулі яе і без слова выйшлі.

Марыся цяпер жыве адна. Дзеці да яе не прыходзяць. Добра, што хоць суседзі добрыя; каб не яны, то была б як той калок у плоце.

— Такі ўжо мой лёс, — гаворыць Марыся. — Адзін усё жыццё плача, а другі скача.

**Аўрора**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Квартэт з Дашоў — як частка калектыву „Беларусачкі" — удзельнічаў у сёлетнім конкурсе „Беларуская песня '90" для школьнікаў.* *Фота Я. Чэрнякевіч*

Лёгка з такімі, як Віцька і Міцька. Вольна сябе адчуваеш. І не пра што думаць не трэба.

А тут... чухаюць патыліцы. І чаго? Каму скажы, дык на смех падыме. Алфавіт прапаў...

— Ха-ха! — не вытрымаў я і гучна засмяяўся: — Алфавіт прапаў...

— Не смейся, — нахмурыў бровы настаўнік. — Хаця б плакаць не давялося.

— А чаго б мне плакаць? Каб ён сапраўды прапаў, дык не плакаў бы, а смяяўся б, — пацяшаюся.

— Узрадаваўся, што не трэба ўрокаў вучыць? — ледзь не выскачыла з-за парты Аленка.

— Смяецца той, хто смяецца апошні, — па-філасофску заўважыў Міколка. — Уяві, што без граматы будзе. Ні кнігі, ні газеты, ні аб'явы на кінатэатрах не прачытаеш.

„Гадоў праз сем-восем, — прыкінуў я, — мяне прымуць у футбольную каманду (у гэтым цвёрда ўпэўнены). І што атрымаецца? Аб маёй бліскучай гульні нават радка не напішуць? Не напішуць, бо алфавіт прапаў." І кнігу старонку за старонкаю гартаю: а калі сапраўды прапаў? Ды бачу, усе літары цэлыя, на месцы. Нікуды не дзеліся.

— Хлусня! — не стрымліваюся. — Тут літары, у кнізе. Цэлы алфавіт. Не ўцёк, не ўкралі. Каму ён патрэбны?

— Супакойцеся, — гэтак спакойненька супыняе мяне настаўнік. — Засталіся літары. Пакуль. А само слова „алфавіт" укралі. Паверце мне: укралі. І роўна праз тыдзень усе літары згінуць. Без алфавіта ім не жыць.

Сур'ёзна гаворыць настаўнік. І ў вучняў твары заклапочаныя. А калі ўвесь клас верыць, дык... і сам мусіш паверыць.

Засумняваўся я: магчыма, і ўкралі? Мы вось мотаровар ук... Не, не, узялі.

Хоць затрывожыўся, а бесклапотны выгляд раблю.

— Няхай крадуць. Кітайскае пісьмо вывучым.

— Можна, і кітайскае, — згаджаецца настаўнік. — Для некаторых яно асабліва падыходзіць. Адзін іерогліф цэлае слова абазначае.

**Аляксей Якімовіч**

## ЯК Я СТАЎ ГЕРОЕМ ДНЯ

**(Урыўкі з кнігі „Гордзіеў вузел")**
**Пачатак у папярэднім нумары**

Настаўнік устаў і хуткімі, нябачнымі рухамі вывеў на класнай дошцы два знакі — кітайскія іерогліфы.

— Першы знак, — тлумачыць, — абазначае слова „дрэва", другі — слова „агонь". Спыніў пагляд на мне, дадаў: — Між іншым, у кітайскім пісьме налічваецца да сарака тысяч іерогліфаў.

Мяне ажно ў пот кінула. А што, калі настаўнік прымусіць кітайскае пісьмо вывучаць? Прападу. Як піць даць, прападу. Тут мастацкія навыкі патрэбны. А я па маляванню не такі ўжо моцны.

— Што-небудзь іншае, толькі не іерогліфы, — вырвалася само сабою ў мяне.

— Можна і іншае. Славянскую азбуку можна. Кірыліцай яна называецца, у гонар двух славянскіх асветнікаў — братоў Кірыла і Мяфодзія. Сорак тры літары азбука налічвае. Усяго сорак тры. А чытаюцца літары не „а", а „аз", не „бэ", а „букі", не „эс", а „слова", не „эф", а „ферт". Яшчэ ёсць „ер", „еры", „юс малы", „юс вялікі", „іжыца", „фіта"...

— Хопіць, хопіць! — ледзь не прашуся я. — Не патрэбна нам і кірыліца.

— Што ж прапануеш? Як знайсці алфавіт, як рассячы гордзіеў вузел?

— Што? — не зразумеў я.

— Гордзіеў вузел, — паўтарыў настаўнік. — Гэта крылаты выраз. З грэчаскай міфалогіі ўзяты. Ужываецца ў значэнні заблытаная справа, складанасць, цяжкасць. Хочаш пра гэты міф паслухаць?

— Хачу, — нечакана згаджаюся я.

— Паводле міфа, — пачаў настаўнік, — Гордзій, фрыгійскі цар, быў раней простым землеробам. Аднойчы ён араў на валах. Неспадзявана на ярмо сеў арол. Прарочыца растлумачыла Гордзію, што гэта прадказвае яму царскую ўладу. У фрыгійцаў якраз памёр цар. Выконваючы волю аракула, царом яны выбралі таго, хто першы на калёсах ехаў да храма Зеўса. Ім аказаўся Гордзій. Калі Гордзія абвясцілі царом, ён загадаў паставіць калёсы, якія прынёс у дар Зеўсу, а валовае ярмо прывязаў да дышля такім заблытаным вузлом, што ніхто не мог яго развязаць. Аракул жа абвясціў, што той, хто развязва

(Працяг на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

**Міхась Рудзішын**

### ГРЫБНІК

Блукае верасень маўклівы
Сярод бяроз, сярод дубоў.
Выходзіць з лесу
Ён, шчаслівы,
З паўнюткім кошыкам грыбоў.

### НЕРУШ

Лес грыбны — вачам не верыш:
Мы натрапілі на неруш.
Аж спацеў руплівы ножык —
Ад грыбоў цяжэе кошык.
Бачу, пуга —
Трэба ўзяць,
Пастушок згубіў, відаць.
Падышоў бліжэй...
— Авой!... —
Пуга тая — з галавой!
І варушыцца,
І сыкае,
Джала ў роце —
Невялікае...
Я наўцёкі,
Брат за мной —
Толькі вецер за спіной!
Страх адстаў, і брат спытаўся:
— Косця, хто за намі гнаўся?
І прызнаўся я:
— Змяя!...
Во грыбоў!
Аж з верхам кошык.
Ды шкада — згубіўся ножык.

### МУХАМОР

Сур'ёзны і надзьмуты —
Лепш абыдзі, не руш.
Абсыпаў перламутрам
Свой дзіўны капялюш.

### АРЭШКІ

На лясныя сцежкі
Падаюць арэшкі,
Жоўтыя, як зоркі.
Любяць іх ваверкі,
Любіць брацік мой
Грызці іх зімой,
Любяць тата, мама,
Ну і я — таксама.
Дзякуй за арэшкі
Вам, лясныя сцежкі!

### ЗОРКА

Жарабятка —
Скок ды скок.
З белай зорачкай лабок,
Неспакойнае,
Імклівае —
Нам махае
Чорнай грываю.
Мы пасём яго на ўзгорку,
Жарабятка —
Нашу Зорку.

### РАДАСЦЬ

Брат ляпіў сінічку,
Каб здзівіць сястрычку.

Паднялі на смех
Мірона:
Атрымалася —
Варона.

А сястрычка Лада
І вароне рада.

Алесь Наварыч

# Аднойчы ў лесе

Пайшлі два хлопцы, Уладзік і Васіль, позняй восенню ў лес. Пахадзілі, палавілі рэха ў пустым, без птушак і грыбнікоў лесе і вырашылі пагрэцца — раскласці агонь. Назбіралі сушняку, чыркнулі запалку — гарыць! Зрабілася цёпла і весела. Пасядзелі, адпачылі. Час і дахаты вяртацца. Прытушылі агонь і крануліся ў дарогу. Тут Уладзік і кажа:

— Відаць, трэба было б вогнішча наша добра затаптаць, вунь вугольчыкі дымяцца.

— Кінь, — кажа Васіль, — зараз восень, усё сырое, не загарыцца нічога, хадзем дахаты.

Адышлі яны ад лесу кіламетры два. Азірнуўся Уладзік і знерухомеў ад нечаканасці: з лесу цягнуўся слупок дыму...

— Пабеглі тушыць! — штурхнуў ён сябра. Але той спалохана лыпнуў вачамі і прамармытаў:

— Уцякаць трэба. Патушыць усё роўна не патушым!

— Дык жа лес згарыць! Бяжым...

— Уцякайма лепш, — адказаў Васіль і пашыбаваў у бок вёскі, а Уладзік завярнуўся і шпарка пабег да лесу. Васіль азірнуўся: няма сябра. І пабег услед за ім. Дагнаў яго каля самага лесу. Бачаць хлопцы — дым жоўты валіць. Кінуліся ў гушчар да вогнішча, а там агонь шугае. Выламалі яны па яловай галіне і давай сцябаць полымя. Хоць узмакрэлі, упарыліся, ды цвёрда ведалі: агонь далей не пойдзе.

Навокал дыміліся галавешкі. Хлопчыкі пачалі таптаць іх. Увіхаючца і не бачаць, як з-за кустоў выходзяць людзі.

— Ну, галубкі, папаліся. Вы лес падпалілі? — сурова спытаў ляснік дзядзька Панас.

У хлопцаў і рукі апусціліся. А тут яшчэ пад'ехаў дырэктар школы. Паглядзеў на выжарыну, на мурзатых хлапчукоў ды кажа:

— Агонь жартаў не любіць. Але не сварыцеся на іх, дзядзька Панас. Хоць кепска зрабілі, з агнём пагуляць хацелі, але ж малайцы, не адступіліся, не спужаліся... Залазьце ў машыну, завязу дахаты.

З палёгкай уздыхнулі хлопцы. Будзе ім навука на ўсё жыццё...

## Вершы Віктара Шведа

### БУДЗЕ РЭПА НА ЯЗЭПЕ

**Мама аблаяла Язэпа:**
**— Які ж ты брудны, проста жах!**
**На шыі можна сеяць рэпу,**
**Цыбулю, моркву на руках.**

**А выкарыстаць яшчэ ногі,**
**Ды твае плечы і жывот, —**
**Будзе гародніны так многа,**
**Што й непатрэбны агарод.**

### ХАЦЕЎ БЫ МЕЦЬ ШУРА СЛАНОВУЮ СКУРУ

**Да сяброў азваўся Шура:**
**— Выйдзе ўся мая віна.**
**На сабе хацеў бы скуру**
**Мець таўшчэзную слана.**

**Робіцца мне страшнавата,**
**Гэта ж, хлопчыкі, не мёд!**
**Заўтра ў школу грозны тата**
**Пойдзе на бацькоўскі сход.**

### ПАВОДЛЕ ВЫГЛЯДУ

Раніцай старэнькая
Хвядора
Да суседкі скардзіцца
вяскова:
— Хуліганскі твой сынок
учора
Абазваў мяне старой
каровай.

— Што ж за неслухмяны
гэты Коля!
Гаварыла ж я разоў
так многа,
Што паводле выгляду
ніколі
Не павінен ён судзіць
нікога.

### АДВЫК ПІСАЦЬ ПЯЦЁРКІ

— Ізноўку атрымаў ты
двойку, —
Сынка-ляноту лае тата. —
Калі ж пачнеш вучыцца бойка,
Пяцёркі прынясеш дахаты?

— Дык цяжка будзе, — кажа
Вася, —
Настаўнік з мінай надта горкай
Сцвердзіў:
— У гэтым дрэнным класе
Я ўжо адвык пісаць пяцёркі.

(Працяг са стар. 9)

### ЯК Я СТАЎ ГЕРОЕМ ДНЯ

гэты вузел, стане ўладаром усяго свету. Дарэмна. Нікому не паддаваўся вузел Гордзія. І вось, заваяваўшы Фрыгію, пра гэта даведаўся славуты палкаводзец старажытнасці Аляксандр Македонскі. Ён увайшоў у храм, прыглядзеўся да вузла, выхапіў меч і рассек яго адным ударам. Адсюль і павялося: секчы гордзіеў вузел — значыць, рашуча, хутка вырашыць складанае пытанне.

Гэта клас: раз — і гатова! За секунду справіўся з праклятым вузлом. Няхай не псуе людзям нервы.

— Дык хто рассячэ гордзіеў вузел? — звяртаецца да вучняў настаўнік.

Усе маўчаць, усе думаюць, патыліцу чухаюць. Не. Такое не па мне. У наш час таксама героі ёсць.

— Я рассяку! Я знайду алфавіт! — не вытрымаў, заявіў рашуча.

— Абяцаеш? — дапытліва глядзіць на мяне настаўнік.

— Абяцаю.

(Працяг будзе)







## ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

### БЕЛАРУСКІ ПЕРШАДРУКАР
(Да 500-годдзя з дня нараджэння).

— 11 —

З 1512 года зноў у жыццяпісе Скарыны белая пляма. Мы не ведаем, дзе быў ён наступныя пяць гадоў, аж пакуль не надрукуе — удалечыні ад бацькаўшчыны — у Празе чэшскай сваю першую кнігу.

Чаму Скарына апынуўся ў Празе, чаму менавіта гэты горад выбраў ён для друкавання кніг?

Зноў толькі здагадкі.

Мяркуюць, што Францыска пасля яго вяртання з Падуі кароль Зыгмунт I мог запрасіць сакратаром пры перагаворах польскага, чэшскага і венгерскага каралёў з імператарам Максімільянам I у Вене. Зыгмунт быў тады апекуном маладога чэшскага караля Людовіка, свайго пляменніка, і мог пакінуць Францыска пры чэшскім каралеўскім двары.

З другога боку, Скарына, відаць, меў нямала сяброў сярод чэхаў і не толькі ў студэнцкія часы. Яшчэ ў маленстве ён бачыў у родным Полацку чэшскіх вайсковых спецыялістаў, якія былі запрошаны для абароны горада. У тыя часы на тэрыторыі Беларусі служылі ў войску чэшскія роты. Былі чэхі і сярод полацкага духавенства. Вядомы, напрыклад, „Апостал“, перапісаны ў 1398 годзе для полацкага епіскапа Феадосія „шматгрэшным Янам, родам чэх“. У недалёкай ад Полацка Дзісне ў манастыры былі іканапісцамі таксама чэхі Марцін і Мікалай.

Але, пэўна ж, Прага прыцягвала тым, што ў ёй ужо друкавалі кнігі на роднай мове чэхаў, што адсюль можна было наладзіць сувязь з такімі цэнтрамі еўрапейскага кнігадруку, як Нюрнберг, Аусбург, Венецыя.

А быў жа непачаты край работы. Апрача таго, што трэба было раздабыць шматлікія тэксты кніг — рукапісныя стараславянскія, друкаваныя чэшкія, лацінскія, якія патрэбна было мець пры зверцы са сваім перакладам, неабходна было адліць новыя, не лацінскія шрыфты, падшукаць кваліфікаваных друкароў, гравёраў, мець паперу.

Дарэчы, у Чэхіі якраз незадоўга, за 18 гадоў перад гэтым, пачынаюць узводзіць першыя папяровыя млыны — у Празе і Збраславе.

Прага магла прыцягваць Скарыну і тым, што была цэнтрам перадавых ідэй. Чэшскі вучоны Здэнэк Неедлы зазначаў: „Гусіцкая Прага перш за ўсё давала Скарыне паруку ў тым, што ніхто не будзе чыніць яму перашкод з-за рэлігійных перакананняў.“

6 жніўня 1517 года ў чэшскай Празе выйшаў у свет Скарынаў „Псалтыр“, а пазней і яшчэ 22 біблейскія кнігі. Да ўсіх іх наш першадрукар даў агульны тытульны аркуш: „Біблія руска выложена доктором Франциском Скориною из славного града Полоцька... людем... к доброму научению“.

**(Працяг будзе)**

**(З кнігі А. Клышкі „Францыск Скарына“)**

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* * *

Паліцыянт сустракае на вуліцы малога. Той плача, бо заблудзіўся.

— На якой ты вуліцы жывеш? — пытаецца паліцыянт.

— Я не жыву на вуліцы, а ў хаце, — кажа малы.

* * *

Мой сябар вельмі любіць адказваць на пытанні прахожых. Аднойчы ў яго запытаў дзядзька на вуліцы:

— Дзе ў вас крама?

— Крама? Ідзіце праз мост, а потым направа.

— А доўгі гэты ваш мост?

— Можа, метраў з дваццаць.

Дзядзька падзякаваў і пайшоў. Раптам ён чуе, што нехта за ім бяжыць.

— Пачакайце, — крычыць мой сябар. — Я памыліўся, мост будзе з сорак метраў!

І ён пачаў крычаць да людзей:

— Людзі, затрымайце чалавека! Калі ён зверне з моста праз дваццаць метраў, як я яму сказаў, дык упадзе ў рэчку!

* * *

У першым класе настаўнік расказвае дзецям пра розныя традыцыйныя адзенне, на якія аказіі што надзяваюць. А потым пытаецца ў дзяцей:

— Скажыце, а як называецца тое, што маладыя адзяваюць на рукі?

— Кайданкі! — цешыцца са сваёй здагадлівасці Пеця.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 220004, г. Мінск, вул. Заслаўская, д. 12, кв. 104. Якубоўская Марына, 6 клас.

* * *

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, п/а Краснае, в. Мазалі, 5. Саша Рухля, 9 гадоў.

* * *

БССР, 220047, г. Мінск, вул. Герасіменкі, 22, корп. I, кв. 131. Воўчак Святлана. 7 клас.

* * *

БССР, 222310, Мінская вобл., г. Маладзечна, вул. Льва Талстога, 8, кв. 57. Чаеўская Іна. 13 гадоў.

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



У гэты прыклад з рымскімі лічбамі, выкладзены запалкамі, яўна закралася памылка. Але дастаткова пераставіць усяго адну запалку, і ўсё стане на сваё месца. Дарэчы, у гэтай задачы не адно, а два рашэнні. Якія?



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка“.

